Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 14 (4917) 7 красавіка 2017 г.



# ПАД ЗНАКАМ VERBUM




Фота Кастуся Дробава.

***Няма пальмы — возьмем вярбу. У нас яна квітнее гэтай парой. Кветка, можа, і не надта прыкметная, але раскрываецца да чалавека ўсёй сваёй пяшчотай, шэрая, але з адценнямі, у якіх праступае і сумны дождж, і сонейка, — самая тая кветка, калі ведаць, да якой нагоды яе рыхтавалі. Нашы продкі ведалі, таму што верылі. І таму надзялялі гэтую кветку (ці галінкі, дзе яна мелася прабіцца) дзіўнай сілай. Сілай жыцця.***

Лупцавалі галінкамі адзін аднога — на здароўе! Нават скацінку ў хляву маглі пасцягаць — каб карміла і не падводзіла цэлы год. І мелі ж рацыю: такая шчыранаіўная вера, з такой адданасцю, з такім імпэтам народжаная традыцыя прыцягвала да іх найвышэйшую ахову — унутраную сілу і жаданне не выракацца, не адступаць, рабіць як заведзена ў нашым народзе.

Заведзена ўжо тысячу гадоў чакаць кожны год Лазараву суботу — заведзена рыхтаваць вербачкі. Упрыгожваць іх самаробнымі кветкамі: няхай Бог узрадуецца, бо наперадзе ў яго жорсткія выпрабаванні праз людскую (нашую?) недасканаласць. Таму імкнуліся галінкі свае ўпрыгожыць як мага больш дасканала, з фантазіяй і крэатывам: колькі традыцый у беларусаў аздабляць вербы! Стужкамі розных колераў, пераплеценымі і завязанымі адмысловымі вузламі, уплеценымі ільнянымі ніткамі, шматкамі тканін, дапаўнялі саламянымі вырабамі ці кветкамі — складалі з галінак сапраўдныя букеты. Усё для таго, каб падкрэсліць: мы рады, што ён з намі. І яны (мы?) з ім — асабліва адказна пражывалі Перадвелікодны тыдзень, бо пасля Вербніцы адразу пачынаецца тыдзень самага строгага посту ў памяць пра пакуты Хрыста. Момант, калі чалавек прыслухоўваецца да сябе і ўслухваецца ў словы Божыя — каб не прапалі дарэмна, каб іх сэнс мяняў чалавечую сутнасць, умацоўваў.

***…Будзь здароў, як вада, а расці, як вярба!*** Пераходзяць гэтыя словы з пакалення ў пакаленне, гучаць па ўсёй Беларусі ў адзін дзень года. А сёлета гэта адзін дзень для ўсіх нашых хрысціян-вернікаў, для ўсіх, каб адчуць: у галоўным мы аднолькавыя. Для нас істотнае аднолькавае разуменне каштоўнасці чалавечага жыцця, бо за кожнай істотай — бессмяротная душа. Для нас істотны шлях сумлення — каб яго не апаганіць і не пакрыўдзіць. Галоўнае — духам быць адданым праўдзе Божай і адчуваць сваю чалавечую годнасць, за якую лепшы з людзей калісьці быў гатовы памерці. Галоўнае — не памерці бясслаўна проста па-чалавечы і як народу.

У тую нядзелю ён ужо ведаў, што яго чакае: Ісус прыйшоў у Іерусалім на свой крыжовы шлях. Ведаў, што аддадуць яго на суд чалавечы, каб потым пакараць. Але ішоў спакойна, таму што ведаў: за ім праўда. Веды пра таямніцы светабудовы робяць неверагодна моцным не толькі таго чалавека, хто мае ў сабе Боскую прыроду, але і таго, хто адчувае ў сабе Боскі пачатак. Кожнага. Таму вернікі пазбаўленыя страху перад жыццём. Кожны, як тая галінка вярбы, — можа быць непрыкметны і сціпла-шэры ў жыцці. Але прыйдзе час — і раскрые сваю адметнасць, праявіць духоўную моц. Ці наш народ, як тыя галінкі, паяднаныя ў букет, — пругкія, нязломныя, змацаваныя аднымі прынцыпамі веры ў магчымасці чалавека і магчымасць самаўдасканалення. Паверыць не позна да апошняга моманту.

Яшчэ тыдзень. І яшчэ…

Працяг тэмы на стар. 2 ▶

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь павіншаваў народную артыстку Беларусі Святлану Вуячыч з юбілеем. «Ваша шматгадовая плённая дзейнасць з'яўляецца яркай старонкай у гісторыі дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі. З гэтым калектывам Вы прайшлі цікавы творчы шлях і сталі прыкладам для некалькіх пакаленняў таленавітых выканаўцаў. Дзякуючы высокаму прафесіяналізму, артыстызму, уменню ствараць запамінальныя вобразы Вы заслужылі любоў і павагу шматлікіх прыхільнікаў народнага танца ў нашай краіне і за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народнага артыста Расіі Марка Разоўскага. «Яркі талент, працавітасць, мэтанакіраванасць дазволілі Вам дасягнуць прафесійных вышынь і заслужыць любоў публікі. Пад Вашым кіраўніцтвам маскоўскі тэатр "Ля Нікіцкіх варот" на працягу многіх гадоў нязменна радуе гледачоў цікавымі праектамі і запамінальнымі пастаноўкамі», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што шматгранная дзейнасць Марка Разоўскага і ў далейшым будзе садзейнічаць умацаванню дружбы і культурных сувязей паміж народамі Беларусі і Расіі.

✔ Шматтомнае выданне «Рэспубліка Беларусь: дасягненні апошніх 25 гадоў» пабачыць свет у 2018 годзе, паведаміла журналістам міністр інфармацыі Лілія Ананіч, прадстаўляючы выстаўку да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Гэтае выданне стане адным з самых яркіх кнігавыдавецкіх праектаў, якія бяруць пачатак у год святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Прадстаўленая ў Савеце Рэспублікі кніжная выстаўка ў пашыраным выглядзе сёлета стане госцем у многіх краінах. Плануецца, што яе ўбачаць у Расіі, Сербіі, Чэхіі, Польшчы, Кітаі.

✔ Найбагацейшы архіў Слуцкага Свята-Троіцкага манастыра прадстаўлены на выстаўцы «Дакументальная спадчына Беларусі XVI — XIX стагоддзяў: архіў Слуцкага Свята-Троіцкага манастыра» ў Нацыянальным гістарычным музеі ў Мінску, паведамілі ў Беларускай праваслаўнай царкве. Выстаўка прымеркаваная да Года навукі і 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Дзякуючы супрацоўніцтву музея з Нацыянальным гістарычным архівам удалося апрацаваць і перавесці ў лічбавы варыянт больш за тысячу рарытэтных дакументаў. Самыя каштоўныя з іх прадстаўлены на экспазіцыі разам са старадрукаванымі кнігамі, абразамі, а таксама фотаматэрыяламі, на якіх, у прыватнасці, адлюстравана ўбранне слуцкіх храмаў, знішчаных у гады ліхалецця.

✔ У Мадрыдзе на базе вучэбнага моўнага цэнтра «Лінгваландыя» арганізаваны курсы па вывучэнні сучаснай беларускай мовы для прадстаўнікоў беларускай дыяспары і іспанцаў. Ідэя гэтага праекта належыць нашай суайчынніцы, кіраўніцы цэнтра «Лінгваландыя» Святлане Яськовай. Першыя заняткі адбыліся 1 красавіка. Пасольства Беларусі ў Іспаніі плануе падарыць моўнаму цэнтру бібліятэчку беларускіх кніг для арганізацыі навучальнага працэсу.

✔ Хутка ў Арт-прасторы, філіяле музея «Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва», адкрыецца выстаўка фотаработ і карцін, якая прэзентуе жыццё Браслаўскага раёна. Экспазіцыя накіравана на развіццё ўязнога турызму і папулярызацыю адпачынку беларусаў. Лепшыя работы прадставяць Юрый Акудовіч, Дзмітрый Бельскі, Юрый Жарко ды іншыя творцы. Ініцыятар выстаўкі — гаспадар сядзібы «У Барысавіча» Юрый Жарко, якая другі год запар становіцца дыпламантам рэспубліканскага конкурсу «Пазнай Беларусь!».

# ПАД ЗНАКАМ VERBUM

**Цягам тыдня мінскі Палац мастацтваў поўніўся рэлігійнымі вырабамі: наведвальнікаў выстаўкі сустракалі стэнды з абразамі, свечкамі, паўла-пасадскімі хусткамі, духоўнай літаратурай, царкоўнай керамікай, галінкамі вярбы, велікоднымі сувенірамі, побытавымі прадметамі ў традыцыях праваслаўнай культуры. Узяць удзел у «Вербным кірмашы» прыехалі прадстаўнікі праваслаўных манастыроў, прыходаў, братэрстваў і сястрыцтваў з усёй Беларусі, а таксама Украіны, Расіі, Малдовы, Сербіі, Грэцыі.**



Фота Кастуся Дробава.

Выстаўка «Вербны кірмаш» засяроджвае ўвагу наведвальнікаў на духоўным жыцці.

Па словах кіраўніка выстаўкі Таццяны Марцавай, арганізаваная сёлета экспазіцыя адрозніваецца ад папярэдніх больш пашыранай культурнай часткай. За духоўна-асветніцкую праграму на «Вербным кірмашы-2017» адказвае Свята-Елісавецінскі манастыр. Спіс мерапрыемстваў атрымаўся вельмі насычаны і разнастайны: акрамя традыцыйнага фармату «Задайце пытанне святару» прадугледжаныя сустрэчы з творчымі людзьмі, прагляд кінафільмаў, канцэрты, майстар-класы, дзіцячая гасцёўня, размовы са спецыялістамі ў розных сферах, медыкамі, фітатэрапеўтамі.

Падчас майстар-класаў штодзень прэзентуюць нешта новае: вучаць ствараць аб'екты з керамікі і гіпсапалімеру, маляваць абразы і рабіць да іх аклады, распісваць дрэва. За 8 дзён выстаўкі Свята-Елісавецінскі манастыр не можа паказаць працу ўсіх падуладных майстэрняў — іх у манастыры каля 30. Там працуюць і служыцелі царквы, і звычайныя вернікі. Манахіні кажуць, што такім чынам мірскія людзі ўцаркаўляюцца, прыходзяць да Бога, растуць духоўна. Наведвальнікі «Вербнага кірмашу» таксама могуць далучыцца да служэння Богу праз творчасць у традыцыях хрысціянскай культуры, зрабіць памятны сувенір з дапамогай прафесіяналаў.

— Майстар-класы цікавыя і дзецям, і дарослым, — мяркуе Ніна Якімовіч, прадстаўніца выставачнага аддзела Свята-Елісавецінскага манастыра. — Напрыклад, у нядзелю ў мазаічнай майстэрні мы вучылі людзей складаць карціны з кавалачкаў спецыяльнага шкла. Удзельнічалі ў асноўным дарослыя: нават на сціплы выраб патрабавалася некалькі гадзін, да таго ж шкло — матэрыял не для маленькіх.

Цягам выстаўкі шмат увагі надавалася сацыяльным праектам. Прайшоў спектакль «Маленькі прынц» з удзелам выхаванцаў мінскіх псіханеўралагічных інтэрнатаў, зладзілі акцыю «Больш чым падарунак», падчас якой сваімі рукамі выраблялі цацкі для дзяцей, хворых на анкалогію. Для маленькіх наведвальнікаў «Вербнага кірмашу» працуе «Дзіцячая гасцёўня». Кожны дзень — асобная праграма. Вершаскладанне, каліграфія, аматарскі тэатр...

Свята-Елісавецінскі манастыр падрыхтаваў асаблівы падарунак для вернікаў: падчас «Вербнага кірмашу» штодзень ладзіцца святочны велікапосны канцэрты — цыкл мерапрыемстваў, скіраваны на адраджэнне традыцыі харавых дабрачынных канцэртаў цягам Вялікага посту. Праграму велікапосных канцэртаў распрацавала старэйшы рэгент Свята-Елісавецінскага манастыра, царкоўны кампазітар манахіня Іуліянія (Дзянісава). Праграма разнастайная: штовечар гучыць не толькі духоўная музыка, але і народныя спевы, лепшыя творы рускай і замежнай класікі. Уваход вольны на ўсе канцэрты, акрамя апошняга — дабрачыннага. Восьмага красавіка ў зале Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы будуць прымаць сродкі на падтрымку праекта «Дом для бяздомных», які пабудуюць на манастырскім падвор'і ў вёсцы Лысая Гара.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Дзеля лучнасці народаў

Вы бачылі лезгінку ў выкананні харэаграфічнага ансамбля «Легенды Каўказа» Міжнароднага грамадскага аб'яднання дагестанцаў «Горо»? Гасцям літаратурна-музычнай імпрэзы ў Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур, прымеркаванай да Дня яднання народаў Беларусі і Расіі, пашчасціла назіраць цудоўнае відовішча! Дыплом Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь мастацкаму кіраўніку калектыву Віусалу Караеву ўручыў намеснік начальніка ўпраўлення Міністэрства культуры Беларусі Алег Скарына.

Дарэчы, грамадскае аб'яднанне «Горо», старшыня якога Хізры Асадулаеў — сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага саюза музычных дзеячаў, Беларускага саюза мастакоў, заслужаны мастак Дагестана, — выступіла арганізатарам вечарыны. Менавіта ў адзінстве дзвюх краін увасоблена моц іх садружнасці і незалежнасці. Сваёй творчасцю гэтую думку, якая стала лейтматывам сустрэчы, пацвярджае вакальнае трыа «Гармония» Народнага рускага хору імя А. Нікіцінай, у рэпертуары якога ёсць песні на беларускай і рускай мовах.

З песеннай культурай рэгіёнаў Расіі публіку пазнаёмілі саліст ансамбля «Хамар Ял» Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Атал» Андрэй Чарняўскі і салістка фальклорнага ансамбля «Лэйсен» Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Татара-башкірская культурная спадчына "Чишма"» Залія Азарава.

Не менш цікава прадставілі сваю творчасць і беларускія літаратары. Любоўю прасякнуты радкі «Оды деду» айчыннага паэта Андрэя Скарынкіна: «Доколе русская словесность / Имеет в обществе известность, / Ты будешь славен…» Лірычны настрой сустрэчы падтрымала паэтэса і бард Таццяна Жылінская: яна прапанавала гледачам песні на вершы паэтаў Міхася Пазнякова і Анатоля Аўруціна, музыку да якіх напісала сама. Цёпла ўспрынялі і песню Хізры Асадулаева на роднай карацінскай мове, і яго вершы ў перакладзе Анатоля Аўруціна.

**Яна ЯВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**7 красавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Анатолем Зэкавым і Наталляй Касцючэнка ў Дом культуры г. Чэрвеня. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**8 красавіка** — *на літаратурнае свята, прысвечанае Дню здароўя і спорту, з удзелам пісьменніка Міхаіла Галдзянкова ў Цэнтр тэхнічнай і мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна «Зорка» (вул. Адзінцова, 10). Пачатак у 10.30.*

**10 красавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак у 14.30.*

**11 красавіка** — *на літаратурна-музычную імпрэзу «У сузор'і геніяў», прысвечаную творчасці класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, з удзелам пісьменніка Дзмітрыя Дземідовіча ў дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**11 красавіка** — *на літаратурна-музычную імпрэзу «Ты багатая, родная мова», прымеркаваную да Тыдня беларускай мовы і літаратуры, у ліцэй № 14 (вул. Ваўпшасава, 15/1). Пачатак у 13.50.*

**11 красавіка** — *на чарговае пасяджэнне літаратурнага клуба «Слова» пры публічнай бібліятэцы № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Вядучая — паэтэса Ганна Кашуба. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**12 красавіка** — *на літаратурна-музычную імпрэзу паэтычнага тэатра «Рытмы сэрца», прысвечаную 135-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, з удзелам паэтаў Уладзіміра Скарынкіна і Ганны Чумаковай у інтэрнат № 1 БДУІР (вул. Якуба Коласа, 28). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**13 красавіка** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам пісьменнікаў Яны Явіч і Дзмітрыя Юртаева ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**13 красавіка** — *на літаратурна-музычнае мерапрыемства «Нашчадкі Перамогі» ў Мемарыяльную залу Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5-226). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**10 красавіка** — *на адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі з удзелам брэсцкіх пісьменнікаў у СШ № 32 (вул. Будаўнічая, 21) г. Брэста. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**12 красавіка** — *на творчую сустрэчу з журналістам, паэтам Георгіем Тамашэвічам у Брэсцкую санаторную школу-інтэрнат (вул. Трышынская, 20). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**14 красавіка** — *на закрыццё Тыдня дзіцячай кнігі з удзелам сяброў літаратурнага гуртка СШ № 10 (кіраўнік — паэт Міхаіл Кулеш) у СШ № 32 г. Брэста. Пачатак а 13-й гадзіне.*

# ПАМЯТНЫ СІМВАЛ = СІМВАЛ ПАМЯЦІ

**У Беларусі абвешчаны конкурс эскізных праектаў памятнага знака (мемарыяла) Курапаты. Мэта конкурсу — пошук найбольш выразнага мастацкага адлюстравання вобраза ўрочышча як агульнанацыянальнага месца памяці і прымірэння. Арганізатар конкурсу — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Удзельнікамі конкурсу могуць быць скульптары і архітэктары, якія маюць адпаведную прафесійную адукацыю.**

Мемарыял павінен стаць асаблівым месцам для беларускага народа, куды зможа прыехаць кожны неабыякавы. Галоўная ідэя твора — увекавечанне памяці ўсіх бязвінна загінуўшых ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Кампазіцыйнае выкананне памятнага знака павінна адпавядаць нацыянальным і класічным традыцыям манументальнага мастацтва. Адна з важных умоў конкурсу — мемарыял павінен лаканічна ўпісвацца ў ландшафт урочышча. Скульптары і архітэктары падчас распрацоўкі свайго варыянта памятнага знака могуць таксама прапаноўваць дакладнае месца яго размяшчэння. Заяўкі для ўдзелу прадастаўляюцца па 26 красавіка.

Беларускі саюз мастакоў уключыўся ў працу, і сёння творцы актыўна падаюць заяўкі на ўдзел у конкурсе, распрацоўваюць праекты.

— Адзінае, што непакоіць мяне сёння, — на конкурс адведзена ўсяго толькі чатыры тыдні, — адначае старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. — Таму вельмі складана быць упэўненым, што за гэты час можна зрабіць нешта адметнае. З іншага боку, тое, што работа распачатая, — выдатна, таму што няма куды адкладваць. І нашы мастакі павінны зразумець гэта. Канечне, пакуль дзяржава павінна зрабіць усё, каб засцерагчы гэтую тэрыторыю ад розных людскіх забаў. Я нават лічу, што гэта найпершая задача, а стварэнне мемарыяла — другая. Для нас гэта толькі пачатак, але ж будуць і іншыя часы, іншыя пакаленні, якія зробяць усё больш грунтоўна, каб урочышча мела агульнанацыянальнае значэнне: мала якая сям'я не была закранутая каткам рэпрэсій. Але не значыць, што гэта помнік ахвярам усяго XX стагоддзя. Нічога падобнага, мы памятаем, што Хатынь — помнік знішчаным вёскам, Трасцянец — помнік ахвярам канцлагера, а Курапаты — помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Таму мы вельмі канкрэтна павінны абазначыць, што Курапаты — наш нацыянальны некропаль.

Базавай арганізацыяй конкурсу будзе выступаць Цэнтр сучасных мастацтваў. Сёння ўжо фарміруецца прафесійнае журы, якое будзе ацэньваць прапановы канкурсантаў, але ж канчатковае слова ўсё роўна будзе за грамадзянамі нашай краіны, якія таксама змогуць ацаніць і выбраць найбольш годны праект.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Рэха выбуху — у сэрцах

Пісьменнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы выказваюць глыбокі смутак у сувязі з трагедыяй — выбухам у метро Санкт-Пецярбурга, які стаў прычынай гібелі людзей, асудзіў параненых на пакуты. Гэты боль і ў нашых сэрцах.

Цяжка зжыцца з думкай, што за гэтым стаіць злы намер, мэтанакіраваныя дзеянні прынесці бяду і гора, запужаць тэрорам.

На жаль, пагрозы і выклікі бяспекі ў сучасным грамадстве гучаць усё часцей. За гэтым стаіць і пэўнае жаданне перапісаць урокі гісторыі, абяліць злачынствы фашызму, прынізіць аўтарытэт сапраўдных патрыётаў. Нярэдка чутныя галасы тых, хто хоча расхістаць свет, нясе паклёп і хлусню, усхваляе гвалт.

Пісьменніцкая супольнасць адзіная ў жаданні несці ў свет ідэалы дабра і справядлівасці, святла і радасці. Мы падтрымліваем усе міралюбныя ініцыятывы Расіі і Беларусі, накіраваныя на міжнародную бяспеку, барацьбу з тэрарызмам. Пісьменнікі абедзвюх краін гатовыя стваральным словам служыць прагрэсу і яднанню народаў.

Трымайся, Санкт-Пецярбург, горад, які ўмее паказваць узоры гераізму і стойкасці.

## Дайджэст

• Заўтра ў Верхнім горадзе адбудзецца фестываль вулічнай музыкі *Karol Jan Open Air*. На працягу сямі гадзін на трох сцэнах будуць граць пятнаццаць стрытбэндаў краіны, а ўвечары гасцей чакае вялікі канцэрт на вольным паветры. У праграме фестывалю прадугледжаны музычныя сэты, стрыт-караоке і выступленне хэдлайнера фэсту — гурта *Akute*. Пачнецца свята з дзённай вечарыны *Blonde Party*, якая прадставіць вельмі разнастайную музычную праграму: ад цымбалаў і тэхна да кавер-бэндаў і бітбоксераў. На *Karol Jan Open Air* гледачы змогуць абраць найлепшы стрыт-бэнд, які атрымае ў падарунак здымкі стрыткліпа. У галасаванні таксама возьме ўдзел зорнае журы оўпэн-эйра: у склад увойдуць прадстаўнікі брэнда «Аліварыя», хэдлайнер фестывалю гурт *Akute*, музычны крытык Аляксандр Чарнуха, музычны журналіст Сяргей Маліноўскі, кампазітар Аляксандр Ліпніцкі.

• П'есу Віктара Марціновіча ўпершыню паставяць на беларускай сцэне. Прэм'ера спектакля «Кар'ера доктара Рауса», у якім расказваецца гісторыя Францыска Скарыны як чалавека, які апярэдзіў сваю эпоху, адбудзецца ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі 19 красавіка. Аўтар скончыў п'есу ў лютым мінулага года пасля працяглага вывучэння малавядомых крыніц пра жыццё беларускага першадрукара. Праз некалькі месяцаў гэты матэрыял быў адзначаны спецыяльным прызам конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць», дзе адной з узнагарод была магчымасць у хуткім часе ўвасобіць тэкст на сцэне РТБД. Калектыў тэатра абраў твор Марціновіча. На сёння сцэну пабачылі дзве п'есы творцы: «Самае лепшае месца на свеце» ў выкананні венскага тэатра «*Ganymed*» і «Даспехі праведнасці» (той жа «*Ganymed*» паставіў яе ў Інсбруку).

• Сайт «Свайкста», вядомы матэрыяламі, прысвечанымі балцкай ідэнтычнасці, пачаў выпускаць аднайменны часопіс. Яго тэмы — традыцыйная культура і этнічная рэлігійнасць. Сярод рубрык на старонках часопіса — «Літва», «Латвія», «Нашы» (тут матэрыялы пра польскіх яцвягаў і беларусаў на Цвершчыне), «Дзень адзінства балтаў». Прэзентацыя першага нумара часопіса «Свайкста» пройдзе 17 красавіка ў этнакраме «Рагна».

• Афіцыйны прадстаўнік Беларусі на міжнародным конкурсе песні «Еўрабачанне-2017» гурт *Naviband* з кампазіцыяй «Гісторыя майго жыцця» выступіць у другім паўфінале пад нумарам 15. Пра гэта абвясцілі арганізатары конкурсу. Сёлета парадкавыя нумары ўдзельнікаў паўфіналаў «Еўрабачання-2017», як і ў мінулыя гады, вызначалі прадзюсары песеннага форуму. Першы паўфінал адбудзецца 9 мая. 11 мая пройдзе другі паўфінал, у якім разам з беларусамі заспяваюць сербы, аўстрыйцы, расіяне, македонцы, мальтыйцы, румыны, галандцы, венгры, датчане, ірландцы, а таксама прадстаўнікі Сан-Марына, Харватыі, Нарвегіі, Швейцарыі, Балгарыі, Літвы, Эстоніі ды Ізраіля. Міжнародны конкурс песні «Еўрабачанне-2017» пройдзе ў Кіеве з 9 па 13 мая.

# Стваральнік строфаў веку

**Мудры майстар вытанчанага паэтычнага слова, рухавы, жыццярадасны, з агеньчыкам у вачах... Такім запомніўся сучаснікам апошні «шасцідзясятнік» — расійскі паэт Яўген Еўтушэнка. Сэрца яго спынілася ў першы дзень красавіка.**



*Фота Кастуся Дробава.*

Росквіт творчасці Яўгена Еўтушэнкі прыпаў на час, калі паэзія збірала стадыёны. Песні на яго вершы выконвалі такія легенды савецкай эстрады, як Муслім Магамаеў, Валянціна Талкунова... Ды мала хто ведае, што ў паэта, які нарадзіўся ў Сібіры, беларускія карані: радзіма яго дзеда па маці, Ермалая Навумавіча Еўтушэнкі, — вёска Хомічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

На Калінкавіччыне Еўтушэнка апошні раз пабываў у 2015 годзе. Тады ж наведаў і лагер смерці Азарычы, гістарычная праўда якога стала для яго адкрыццём. Прыязджаў і ў Мінск — у тым жа 2015-м і пяцю гадамі раней, у 2010-м. Сустракаўся з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, міністрам культуры Барысам Святловым. Заходзіў і ў рэдакцыю часопіса «Нёман». Выступаў перад чытачамі ў Мінску, Гомелі, Мазыры…

«Я ношу в себе Калинковичи / И весь мир в себе ношу, / Но всё дело не в количестве / Стран, а в том, чем я дышу. / Я дышу деревней Хомичи, / Где в засовах нет замков, / Где быть замкнутым не хочется, / Потому и я таков!» Гэта — радкі Яўгена Еўтушэнкі пра гістарычную малую радзіму. А вось — пра палешукоў: «Бабка Ганна, белорусская бабушка и бабушка всего мира... Крестьянская Коллонтай партизанских болот!» Менавіта партызанка бабуля Ганна стала прататыпам галоўнай гераіні паэмы «Мама и нейтронная бомба», за якую паэту ў 1984-м прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

Яўген Аляксандравіч — укладальнік анталогіі рускай паэзіі «Строфы века» (Мінск — Масква, «Полифакт», 1995), якая яшчэ ў 1993-м пабачыла свет у ЗША (на англійскай мове). У кнігу ўвайшлі вершы 875 аўтараў. Пад адной вокладкай Яўген Еўтушэнка аб'яднаў, прымірыў «проста паэтаў, проста рускіх»: Івана Буніна, Максіміліяна Валошына, Эдуарда Багрыцкага... Стваральнікам строфаў веку ён застаецца і для нас, сучаснікаў і нашчадкаў.

Пахаваюць паэта 12 красавіка ў падмаскоўным Перадзелкіне, як ён і завяшчаў.

**Яна ЯВІЧ**

## ЛіМ-каляндар

**4 красавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння Адама Залескага (1912 — 2002), беларускага гісторыка, этнографа.

**4 красавіка** 50 гадоў адзначыў Алег Хаменка, беларускі музыкант, кампазітар, выкладчык.

**5 красавіка** 70 гадоў споўнілася Генадзю Чыстаму, беларускаму мастаку-афарміцелю.

**7 красавіка** — 90 гадоў з дня нараджэння Валерыя Міронава (1927 — 2008), беларускага артыста балета, педагога, народнага артыста БССР.

**7 красавіка** 70-гадовы юбілей святкуе Валерый Славук, беларускі графік.

**8 красавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Юрыя Бастрыкава (1937 — 2011), беларускага спевака, народнага артыста Беларусі.

**9 красавіка** — 85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Бойкі (1932 — 1996), беларускага мастацтвазнаўца, літаратурнага крытыка, графіка, паэта, кінасцэнарыста.

**9 красавіка** 75 гадоў спаўняецца Тамары Паўлючук, беларускаму мастаку манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісцу.

**9 красавіка** 70-годдзе адзначае Іван Мацкевіч, беларускі акцёр.

**9 красавіка** 60 гадоў святкуе Пётр Назаранка, беларускі жывапісец, педагог.

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказвае шчырыя спачуванні Бадаку Аляксандру Мікалаевічу ў сувязі з заўчаснай смерцю дарагога і блізкага чалавека — жонкі Жанны Арсеньеўны Бадак.

На жаль, словамі цяжка загаіць у сэрцы страшную рану. Аднак светлыя ўспаміны пра чалавека, які сумленна і годна пражыў жыццё, пакінуўшы плён добрых спраў, заўсёды будуць мацнейшыя за смерць.

У гэтую горкую хвіліну падзяляем Ваша гора, смуткуем разам з Вамі.

Палачане

# БАЦЬКА ДЫ СЫН



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Прафесар з Масквы, доктар медыцынскіх навук Андрэй Мікалаевіч Ільніцкі часта бывае ў родным Полацку. Тут ён нарадзіўся, тут закончыў школу, сюды пасля заканчэння Віцебскага медыцынскага інстытута прыехаў працаваць доктарам і ўзначаліў аддзяленне медыцынскай рэабілітацыі гарадской палiклінікі.

А я ўзгадваю падлетка Андрэя ў кватэры яго бацькі Мікалая Мікалаевіча Ільніцкага, дырэктара Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка. Мікола, а я мог так яго, хоць і рэдка, называць, запрасіў мяне ў госці паглядзець ягоную багатую бібліятэку, у якой было нямала кніг з аўтографамі Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна, Алеся Савіцкага, многіх славутых беларускіх і рускіх пісьменнікаў. Так сталася, што са старэйшым Ільніцкім мы вучыліся ў паралельных класах дзявятай школы горада.

Мікола ў нашы школьныя гады вучыўся нядрэнна, але ні ў вялікіх актывістах, ні ў выдатніках не значыўся. Пасля школы паступіў у Полацкі політэхнічны тэхнікум, завочна скончыў філфак БДУ, працаваў настаўнікам, сакратаром камітэта камсамола адной з навучальных устаноў горада. Менавіта гэтая грамадская праца і вылучыла яго ў лідары. Мікалай Ільніцкі стаў у Полацку прыкметнай фігурай — спачатку загадчыкам ідэалагічнага аддзела, а затым і сакратаром гарадскога камітэта кампартыі, што па тых часах азначала — галоўным ідэолагам горада. Ідэалагічная праца тычылася ў асноўным выхавання насельніцтва ў духу камуністычных ідэй, пралетарскага інтэрнацыяналізму, савецкага ладу жыцця. Ільніцкі ж вылучаўся сярод калег любоўю да айчыннай гісторыі, літаратуры, мастацтва, падтрымліваў сувязі з творчай інтэлігенцыяй. І таму, калі пасля ад'езду з горада Таццяны Рудавай вызвалілася месца дырэктара Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, іншую кандыдатуру на гэтую пасаду ўявіць было цяжка.

Папярэдніца Мікалая Мікалаевіча зрабіла ў справе захавання гістарычнай спадчыны нямала. Па яе ініцыятыве і пры яе непасрэдным удзеле адбылася рэстаўрацыя Сафійскага сабора, брацкай школы Багаяўленскага манастыра, быў створаны музей беларускага кнігадрукавання, што стала асновай унікальнай установы — Полацкага запаведніка. Ільніцкі надаў новую дынаміку ўсёй краязнаўчай і культуралагічнай рабоце ў горадзе. Стварэнне і развіццё ўнікальнай карціннай галерэі, арганізацыя навуковых семінараў, мастацкіх выставак і самых розных творчых імпрэз прыцягвала ў горад уплывовых і цікавых гасцей.

Многія з іх дзякуючы асобе Мікалая Ільніцкага станавіліся сапраўднымі сябрамі горада. Частымі гасцямі ў палачан былі мастачка Нінэль Шчасная, гісторыкі Сяргей Тарасаў, Ніна Здановіч, архітэктары Валерый Слюнчанка і Вадзім Глінкік, літаратары Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Пятро Васючэнка, Уладзімір Арлоў. Карцінная галерыя аб'яднала вакол сябе цікавых творцаў Сяргея Цімохава, Аляксандра Канавалава, Алега Ладзісава, Ігара Куржалава, Таццяну Козік... Запаведнік пры Мікалаі Ільніцкім стаў сапраўдным культурным цэнтам горада, выдатным асяродкам для тых, хто любіць і цэніць айчыннае мастацтва, гісторыю і культуру. Ільніцкі стаў таксама ініцыятарам і арганізатарам многіх маштабных праектаў па адначленні гістарычнай спадчыны, па прыцягненні ў горад турыстаў не толькі з Беларусі, але і іншых краін.

Аўтарытэту ўсёй гэтай шматграннай дзейнасці спрыяла і тое, што Мікалай Мікалаевіч быў абраны сенатарам — членам Савета Рэспублікі. Жыццё яго абарвалася пасля цяжкай хваробы. І хоць гавораць часам, што незаменных людзей няма, ролю і месца гэтай асобы ў жыцці горада замяніць так нікому й не ўдалося.

Сын Андрэй Мікалаевіч з гонарам нясе прозвішча бацькі, таксама рупіцца пра лёс роднага горада, роднай культуры. Ён пастаянны аўтар калонкі ў мінскім «Медыцынскім весніку», часта выступае з лекцыямі па пытаннях геранталогіі са сваім сябрам, таксама палачанінам Кірылам Прашчаевым.

Полацк дае сілы і натхненне многім людзям. Ён дае жыццё слаўным традыцыям і стварае выдатныя сямейныя дынастыі.

## Вольга ЛЯЎКО:

# «Гэта была самастойная краіна»

**Загадчыца Цэнтра археалогіі і старажытнай гісторыі Беларусі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Вольга ЛЯЎКО даследуе гісторыю беларускай дзяржаўнасці. Цыкл яе навуковых работ «Вытокі беларускай дзяржаўнасці: Полацкая і Віцебская землі ў IX — XVIII стагоддзях» атрымаў высокую адзнаку на дзяржаўным узроўні. Звесткі, выкладзеныя ў рабоце, сёння варта ведаць нават школьнікам. Вольга Мікалаеўна тлумачыць:**



— Важна ўяўляць, што кожны народ мае пэўны фундамент свайго існавання. Мы не ўзніклі з ніадкуль. Каб утварыўся пэўны этнас, з нейкімі адрознымі рысамі, ён павінны жыць разам на адной тэрыторыі, выпрацоўваць прынцыпы ўласнай культуры. Калі гэтага няма, значыць, няма і народа. Нам увесь час кажуць, маўляў, вы існуеце 25 гадоў альбо вас можна адлічваць ад БНР, а раней вас не было, вы жылі ў іншых дзяржавах і не мелі нічога ўласнага, таму гаварыць пра беларусаў не выпадае... Хіба гэта правільна?! Нашы дадзеныя акурат абвяргаюць такія меркаванні; яны сведчаць, што ў нас была гісторыя насельніцтва, якое пазней пачало звацца беларусамі. І гэта гісторыя звязаная з канкрэтнай тэрыторыяй — нашай. Гэта зямля ўмацоўвалася, абгароджвалася, трымала свае межы. Унутры яе развівалася сетка гарадоў, вясковых селішчаў — адміністрацыйная структура, якая існуе і сёння, накшталт сучасных абласцей, раёнаў. Доказы наяўнасці такой структуры надзвычай важныя для таго, каб паказаць, што гэта ў нас было і засталося, што сучасныя раёны і вобласці бяруць свае карані з тых, больш ранніх, тэрыторый. І кіраўніцкі апарат, які мы сёння маем, зноў жа, бярэ свае карані яшчэ там. Мы маем аснову — тое, з чаго пачалася і ўзнікла сённяшняя дзяржава. Гэта была самастойная краіна, што развівалася па тых жа прынцыпах, на тых жа асновах, што і Кіеўская Русь. Яны ладзілі ці ваявалі, спрачаліся адно з адным — і ўсё дзеля таго, каб умацавацца і стаць больш трывалымі самім. Мелася ўласная княская дынастыя, якую не тасавалі, не перакідвалі з аднаго месца ў іншае, як у Кіеўскай Русі, дзе той, хто кіраваў цэнтрам, мог накіроўваць сваіх сыноў у розныя гарады. Тут такога не было: толькі той, хто жыў на Полацкай зямлі, кіраваў ёй. Гэта была цалкам суверэнная дзяржава.

**— У вашай рабоце пазначана, што станаўленне Полацка ў якасці цэнтра адбывалася на мясцовай племяннай аснове, а Ноўгарад і Кіеў для гэтага запрашалі варагаў. Аднак у падручніках пішуць, што ў нас таксама кіравалі варагі?..**

— Так, у падручніках напісана, што, калі прыйшоў Рурык у Ноўгарад, ён праз два гады раздаў сваім мужам розныя гарады, у тым ліку Полацк, і ўлада варагаў распаўсюдзілася на ўсю зямлю, якую пачалі называць старажытнарускай дзяржавай... Але раздаць гарады — гэта не значыць пасадзіць на ўладу. Мясцовыя жыхары самі запрашалі таго ж Рурыка: «Прыйдзі — і кіруй намі». Іншымі словамі, яму загадвалі сесці на прастол і кіраваць. У Полацку ніхто так не рабіў, нікога не запрашалі. Падчас археалагічных раскопак не выяўлена ніякіх матэрыялаў, якія б сведчылі пра наяўнасць нейкай варажскай дружыны, якая ўтрымлівала б тут уладу. Больш за тое, на працягу ўсёй гісторыі Полацка IX — XIII стагоддзяў мы назіраем, што, акрамя княскай улады, была моцнай і ўлада веча — народнага сходу. У яго ўваходзілі баяры, якія валодалі зямлёй, і гарадскія патрыцыі, прадстаўнікі купецтва і рамесніцтва. І яны заўсёды патрабавалі, каб князь прытрымліваўся іх інтарэсаў. Усе вайсковыя паходы, якія арганізоўваліся палачанамі, былі не ад таго, што князю захацелася пайсці на некага з вайной, а ладзіліся яны з рашэння, адабрэння веча. Яны абкладвалі данінай сваіх суседзяў з Прыбалтыкі, заклікалі іх пад свае сцягі, калі даводзілася абараняцца ад наўгародцаў ці кіяўлян. Яшчэ важны момант: калі сабраць усе сведчанні часоў існавання Полацкай дзяржавы, мы нідзе не знойдзем, каб кіяўляне ішлі на сам Полацк, — яны маглі рабіць набегі толькі на ўскраіны, памежжа, але ніколі не наважваліся ісці на цэнтр, бо разумелі, што гэта была б вайна дзяржавы з дзяржавай. А так гэта быў толькі памежны грабеж, не больш.

**— Вы працуеце археолагам сорак гадоў, розныя бачылі часы, змены ў грамадстве. А як мяняецца стаўленне да нашай гістарычнай памяці?**

— Гэта складанае пытанне, бо мяняецца яно ў два супрацьлеглыя бакі. У нас шмат надаецца ўвагі пытанням, звязаным з духоўнай культурай народа, з культавымі помнікамі, аднаўляюцца некаторыя сярэднявечныя рэзідэнцыі. Гэта ўсё робіцца дзеля развіцця турызму, прывабнасці нашай краіны, з пэўнымі асобнымі гістарычнымі рысамі. Але, на жаль, самае важнае — пытанне захавання і аховы ўсяго таго, што ў нас яшчэ ёсць у зямлі (а зямля наша надзвычай багатая на матэрыяльныя сведчанні, якія мы выкарыстоўваем для напісання гістарычных прац), — вырашаецца вельмі слаба. А самае галоўнае, даследуецца надзвычай мала. Аддзелы культуры, мясцовыя музеі не спяшаюцца адукоўваць самих сябе ў гэтым кірунку, абараняць і ўзнімаць узровень захоўвання тых аб'ектаў, за якія яны па закone адказваюць. Хацелася б, каб больш у нашай краіне было цікавасці да археалагічнай спадчыны. Магчыма, у сферы адукацыі трэба паразважаць над гэтым пытаннем — не толькі нашай гістарычнай памяці з пункту гледжання дзяржаўнасці, але і як спадчыны матэрыяльнай культуры.

**— Мне здаецца, у Беларусі пралягае цэлая прорва паміж дасведчанымі людзьмі і тымі, хто лічыць, што ў нашай гісторыі нічога не было...**

— Сітуацыю ніколі не выправіць толькі з аднаго кірунку. Ёй павінны займацца абодва бакі. Трэба, каб было не толькі жаданне даць веды, але і жаданне іх атрымаць. Калі б з'явілася зацікаўленасць у работнікаў культуры з тых жа музеяў, аддзелаў культуры, ідэалогіі і па справах моладзі!.. А яны ставяцца да гэтага як да лішняга клопату. Калі людзі, якія працуюць на месцах, пачнуць разумець свой абавязак у гэтай працы, пачнуць тым дзецям, якія прыходзяць у музей ці на нейкі аб'ект, расказваць ці паказваць менавіта так, як трэба, каб дзеці разумелі, пра што ім гавораць, тады ўсё зрушыцца з месца. А пакуль экскурсіі, якія праводзяцца ў нас у Беларусі, у большасці накіраваны на танны эфект: людзям распавядаюць нейкія байкі, што рабілася згодна з паданнямі. Але што было насамрэч і што яно было ў дзесяць разоў цікавейшае, экскурсавод не ведае, бо не чытае кніг!

Мяне неяк спыталі, ці абавязкова перачытваць усе тыя работы, якія я напісала, я адказала, што неабавязкова. Але ўсё гэта можна выкласці папулярна, даступна, каб людзі ацанілі і зразумелі, — і гэта павінна быць у спецыяльнай літаратуры. І, натуральна, такую працу павінны рабіць не мы.

**— Аднак у Еўропе і самі навукоўцы таксама пішуць папулярныя выданні...**

— Так, і я пішу. Але разарваць сваё жыццё на часткі не так проста. Трэба або заглыбіцца ў нешта фундаментальнае, або толькі павярхоўна пісаць некаторыя тэзісы. Я не супраць, выступаю перад людзьмі, расказваю, паказваю, тлумачу. Ва ўсіх раёнах, дзе працую, маю наладжаныя кантакты з мясцовымі органамі культуры. Таму цудоўна ведаю, што робіцца на месцах. Там, дзе ўдаецца знайсці агульную мову, работа ідзе. Аднак у нас вельмі шмат абласцей і раёнаў, не ахопленых археалагічнымі даследаваннямі. Спецыялісты ў многія раёны проста не даходзяць, таму што нас вельмі мала. Праца, якую мы робім, базіруецца на вялізным матэрыяле, які збіралі дзесяцігоддзямі як мы, так і папярэднікі. Але, каб быў бачны яе вынік, патрэбна зацікаўленасць усіх бакоў.

Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ

# ПАДСТАВА ДЛЯ ЦУДУ

## Чым вабіць опера на беларускай мове?

**Адметна, што сярод адзначаных сёлета на высокім дзяржаўным узроўні — працы ў музычных тэатрах ці асобы, якія паспрыялі іх развіццю. Кожнага з лаўрэатаў мы прадставім паасобку. Сёння звяртаемся да оперы «Сівая легенда»: варта зразумець, чым асаблівая пастаноўка Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі? Нядаўна паслухала яе чарговы раз. І адчуванні — як у першы: некаторыя моманты з пастановачнай часткі так уражваюць, што хочацца тут жа перачытаць Караткевіча: а як жа гэта ў яго? Ад жадання ўсё вымяраць праз літаратурную першаснову не пазбавіцца: магчыма, таму, што кампазітар Дзмітрый Смольскі ствараў «Сівую легенду» ў цесным супрацоўніцтве з пісьменнікам.**

Уладзімір Караткевіч умеў распавядаць неверагодныя гісторыі. Яны здаваліся неверагоднымі, але калі пачынаў аналізаваць, то ўсё неяк лагічна сутыкалася, усё вынікала адно з другога, падавалася абгрунтаваным і абсалютна рэальным. Таму яго гістарычная проза захапляла. І яшчэ, можа, таму, што для Караткевіча не існавала дробязяў, ён прадумваў сюжэт так, каб не было да чаго прычапіцца, каб беларуская гісторыя ў свядомасці чалавека ажывала, няхай і ў рамантычным варыянце, але падобным да праўды. Ён імкнуўся выклікаць цікавасць да рэальнай беларускай гісторыі і тады, калі паводле твораў ствараліся фільмы ці спектаклі, у тым ліку оперныя, і калі ў іх нібыта галоўнай была лінія кахання.

Як у аповесці «Сівая легенда», што прыйшла да чытачоў на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Аповесць мела поспех, жыццё яе герояў працягвалася і ў іншых мастацтвах. У 1978 годзе да твора звярнуўся кампазітар Дзмітрый Смольскі: атрымалася опера, лібрэта да якой напісаў сам аўтар. Хто, як не ён, лепш за іншых мог выціснуць з сюжэта найбольш значныя і сутнасныя эпізоды, вызначыць сэнсавыя задачы кожнага з герояў. Але галоўнае — прамовіць іх словамі ўласныя думкі. Тым больш што ў тэатры іх можа пачуць адначасова мноства людзей. Як тады, калі быў жывы аўтар аповесці, так і цяпер, ужо ў XX стагоддзі, калі тэатр звярнуўся да твора зноў.

Пастаноўка новай рэдакцыі з'явілася ў рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі: гэтай прэм'ерай распачаўся 80-ы сезон тэатра ў 2012 годзе. А ўжо ў снежні 2013-га калектыў Вялікага тэатра менавіта за пастаноўку оперы «Сівая легенда» кампазітара Дзмітрыя Смольскага атрымаў спецыяльную прэмію Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтваў — за значныя дасягненні ў развіцці беларускага тэатральнага і музычнага мастацтва. Цяпер чарговая высокая адзнака. Цікава, што не за сам твор (аўтар музыкі Дзмітрый Смольскі), а ў большай ступені за працу калектыву тэатра, які ажыццявіў задуму рэжысёра Міхаіла Панджавідзэ: ён прачытаў Караткевіча па-свойму.

У XXI стагоддзе опера прыйшла з некаторымі зменамі. Маштабнасць дэкарацый, вонкавага афармлення (мастак-пастаноўшчык А. Касцючэнка) дае адсылку да гісторыі. Хоць вобраз гістарычнай Беларусі ўсё ж тут умоўны. Усё дзеля даніны цяперашняму стагоддзю, у якім галоўнае — зачапіць слухача, пазабаўляць яго, распаліць уяўленне: праз пачуццёвасць, бойкі з халоднай зброяй і іншыя спецэфекты, нават трукі (о, гэтага сучасная слухача даводзіца «брац» рознымі сродкамі). І так, давозіцца сачыць за інтрыгай, закладзенай аўтарам.

Герой оперы «Сівая легенда» Раман служыў каханню — зямному, чалавечаму, вельмі страснаму. За яго гатовы быў ісці ў паўстанне разам з сялянамі, ваяваць, праліваць кроў. За адну дзяўчыну, сялянку, хоць сам шляхціц. Супраць сябра меч узняў, народны бунт узначаліў — у нейкім сэнсе падпарадкаваў яго сваім памкненням. І сам жа пакутаваў моцна, што ідзе да сваёй каханай праз кроў, што, ратуючы адну, ахвяруе многімі жыццямі і мірам на роднай зямлі, якую імкнуцца расцягнуць па інтарэсах — саслоўных, кланавых, рэлігійных… Але адна справа — за веру ваяваць, сапраўднага Бога абараняць. Бог у развагах Рамана таксама прысутнічае: ён, праваслаўны, дакарае Кізгайлу, які перайшоў у каталіцтва. Але іншая справа — пакараць здрадніка: гэта ён робіць у большай ступені праз каханую Ірыну…



Святыя айцы царквы кажуць: дзе пануе асабістая страсць, дабра не будзе. Будзе, будзе — нібыта спрачаюцца айцы спектакля, імкнучыся зарадзіць слухачоў оперы аптымізмам. І вось на нашых вачах па іх волі драма пераўтвараецца ў казку, у якой галоўныя героі праходзяць праз агонь, ваду і медныя трубы. Каханне перамагае, як і добрыя бяруць верх над злымі. І нават замест адсечаных рук… тут жа вырастаюць новыя! Цуд, ды і толькі. Каханне здольнае тварыць цуды. Альбо Бог?..

Закатаваная пара злучаецца і на нашых вачах паўстае ў арэоле святасці: над ёй блішчаць залатыя аклады абразоў…

Калі пачытаць Караткевіча, то ў яго падстава для цуду зусім у іншым. Сваіх герояў ён усё ж не зрабіў узорнымі ці бездакорнымі — ён не пісаў жыццяпіс святых. Яго героі дзейнічаюць як жывыя людзі, якія трапляюць у складаныя абставіны, памыляюцца, пакутуюць праз гэта, бываюць пакараныя — кожны за свае грахі. І ў кожнага яны ёсць — грахі і страсці. Кожнаму можна дараваць. Даравання трэба заслужыць, каб атрымаць збавенне і палёгку — і тады, так, ад адчування Боскай спагады могуць вырасці крылы нават у самай безнадзейнай, нечалавечай сітуацыі: яна аслеплена, ён знявечаны, але яны жывыя і разам. Неперамоханыя, нескароныя, больш моцныя. Героі, якімі хочацца захапляцца, як гэта робіць аўтар у самым апошнім радку аповесці: «Божа, злітуйся над зямлёю, што нараджае такіх дзяцей». Не дзіва, што гісторыя стала натхняльнай.

Таму твор літаратуры, дзе раскрывающа вельмі заблытаныя перыпетыі ўзаемаадносін герояў, а праз іх паказана неадназначная гісторыя «зямлі пад белымі крыламі», дзе асабістае знітоўвалася з грамадскім, а грамадскае станавілася асабістым, нарадзіў у кампазітара Дзмітрыя Смольскага музыку. Яна дае адчуванне сапраўднай легенды: прыгожай і таямнічай, якая дайшла з глыбінь, але інтрыгуе сёння. Гэта адчуваеш ужо з уверцюры: праз музычную плынь ідзе няўлоўны подых спрадвечнароднага, глыбока-ўдумлівага, таго, што абуджаецца на генным узроўні і ўключае асаблівую пачуццёвасць. Такую музыку можна слухаць і з заплюшчанымі вачыма — і ўзнікаюць вобразы, і выцягваюць усё, што ты мог ведаць пра часы Льва Сапегі. А потым прыходзяць героі — праз арыі, праз вельмі глыбокія і прыгожыя дуэты. Пачуццёвасць перадаюць артысты, якія спяваюць галоўных герояў (адзначана выкананне партыі Любкі Аксанай Волкавай, Ірыны — Настассяй Масквіной, Кізгайлы — Станіславам Трыфанавым, Рамана — Сяргеем Франкоўскім). Вялікую працу робіць хор, які ўвасабляе народ. Усё гучыць на беларускай мове. У нас у тэатры цяпер такіх опер… Няшмат. Кожны паказ — свята нацыянальнай опернай музыкі, якая сцвярджалася з часоў Манюшкі, а закладвалася як музычная з'ява яшчэ раней (калі лічыць дзейнасць палацавых тэатраў, таго ж Нясвіжскага). Ды і за савецкім часам кампазітары пісалі, а тэатр ставіў оперы паводле беларускіх сюжэтаў і твораў. Опера — гэта не толькі прызнаныя і пазнавальныя творы Вердзі, Расіні, Пучыні… Ёсць айчынная оперная класіка, на якую неабходна звярнуць увагу нашага гледача: народ, які мае творы такога мастацтва, — высокакультурны.



Пастаноўку «Сівой легенды» ў XXI стагоддзі можна лічыць гістарычнай падзеяй, да таго ж прыгожая, разумная музыка зусёды актуальная. І не дзіва, што, пачуўшы музыку Дзмітрыя Смольскага, Караткевіч пагадзіўся стварыць з ім оперу. Атрымаўся арганічны твор, напоўнены думкамі, развагамі, драматызмам, раствораным у гуках. Паколькі оперы на сцэне могуць жыць доўга, магчыма, гэта не апошні варыянт пастаноўкі, таму што ў кожнага пакалення можа быць сваё ўяўленне пра гэты твор Смольскага з яго глыбокім філасофскім светаадчуваннем. І свой Караткевіч з яго разуменнем шчыра-боскага ў чалавеку, калі не забітае сумленне і калі не забыты родны край: разам з драмай персанажаў адчуваеш, які драматычны шлях праходзіў наш народ дзеля сцвярджэння сваёй праўды. Пра гэта хочацца дакладваць глыбей, у Караткевіча, у іншых. Самая вялікая каштоўнасць гэтага спектакля ў тым, што пасля вельмі цягне да кніг…

**Ларыса ЦІМОШЫК**

## Адзнакі за знакавасць

Стала вядома, хто ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь 2016 года.

У галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прэмія прысуджана калектыву супрацоўнікаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ў асобе Аксаны Волкавай, Анастасіі Масквіной, Станіслава Трыфанава, Сяргея Франкоўскага, Ніны Ламановіч, Аляксандра Касцючэнкі за значныя творчыя дасягненні ў развіцці музычнага мастацтва, прапаганду духоўных каштоўнасцей і значны асабісты ўклад у пастаноўку опернага спектакля на музыку Дзмітрыя Смольскага «Сівая легенда» паводле твора Уладзіміра Караткевіча.

За значныя дасягненні ў галіне тэатральнага і музычнага мастацтва, стварэнне музыкі да балета «Мефіста», мюзіклаў «Шклянка вады», «Джулія», «Соф'я Гальшанская», «Байкер» прэміяй таксама ўганараваны кампазітар Уладзімір Кандрусевіч.

Дзяржаўная прэмія ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прысуджаецца грамадзянам Рэспублікі Беларусь за глыбокія па змесце і адметныя па форме выдатныя работы (творы літаратуры, мастацтва і архітэктуры, дасягненні выканаўчага майстэрства), якія істотна ўзбагацілі нацыянальную і сусветную культуру, якія спрыяюць сцвярджэнню агульначалавечых каштоўнасцяў і ідэй гуманізму. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прысуджае адзін раз на два гады (кожны цотны год) тры Дзяржаўныя прэміі ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

# 77 магчымасцяў знаёмства




**Выдатна.** Значныя для нас людзі застаюцца побач нават пасля таго, як пакідаюць мітуслівае зямное жыццё. Так і імя паэта Юрыя Сапажкова, колішняга супрацоўніка «Нёмана», не знікае са старонак часопіса. У сакавіку Юрыю Міхайлавічу магло б споўніцца 77 гадоў — і з гэтай нагоды Зінаіда Краснеўская прапануе ўвазе чытачоў 77 цытат з тэкстаў спадара Юрыя — «цудоўнага чалавека, разумнага, зацікаўленага суразмоўцы і глыбокага, сапраўды таленавітага паэта». Цытаты ўзятыя з твораў розных жанраў — вершаў, эсэ, крытычных артыкулаў і нават зборніка дзіцячых вершаў "Павук-канатаходзец". У публікацыі «Семдзесят сем» шмат трапных думак пра жыццё і літаратуру, шмат вершаваных радкоў, у якіх ёсць «яснасць выяўлення, прыгажосць і думка». Дванаццаць старонак цытат — магчымасць дастаткова глыбокага знаёмства з творцам, і абраны Зінаідай Краснеўскай спосаб нагадаць пра калегу і добрага сябра падаецца добрай знаходкай, якую часам варта браць на ўзбраенне.

**Сумніўна.** У аповесці Максіма Іванова «Саната жніўня» галоўныя героі — людзі, якія знайшлі сябе ў прафесіі, сталі бацькамі, але пачуваюцца расчараванымі: жыццё нецікавае і аднастайнае, нешта важнае аказалася няздзейсненым... Жнівень — яшчэ не восень жыцця, але вясна засталася далёка, пакрысе надыходзіць час успамінаў. Адпаведна, кожная з трох частак аповесці — гэта ўспамін, унутраны маналог героя, у якім шмат увагі надаецца настрою, пачуццям, адчуванням. У сюжэтным плане гэтыя псіхалагічныя эцюды нічым не звязаныя, хаця паміж героямі ёсць нямала агульнага. І паколькі Максім Іваноў мае філалагічную адукацыю, крыху дзіўна, што ён не паспрабаваў «скрыжаваць» біяграфіі праз гісторыю, агульную для галоўных персанажаў. Было б таксама выдатна, каб у творы меліся ідэі, якія выяўляюцца праз падтэкст, праз спалучэнне сэнсаў і становяцца для чытача ўласным адкрыццём, тым самым інсайтам, дзякуючы якому на многія гады запамінаюцца мастацкія творы і іх аўтары. Пакуль Максім Іваноў вельмі канкрэтны і рэалістычны (натуралізм — яшчэ адзін магчымы кірунак?..), але яго аповесць чытаецца з вялікай цікавасцю. Напэўна, галоўнае пажаданне аўтару ў гэтым выпадку — больш свабодна пачувацца ў творчасці, а чытачам (як мараль з аповесці) — вучыцца перамагаць меланхолію і дэпрэсіі, каб не абсалютызаваць праблемы і заўважаць светлыя і радасныя імгненні.

**На суд чытача.** На паэтычных старонках «Нёмана» прадстаўлены вершы Уладзіміра Мазго, Георгія Кісялёва і Наталлі Кучмель. Публікацыі выглядаюць вельмі годна — у тым ліку дзякуючы перакладчыкам Анатолю Аўруціну і Юрыю Мацюшку. Светлыя вершы адкрытага, рамантычнага Уладзіміра Мазго, лірыка Наталлі Кучмель, дзе тонка прамаляваны розныя грані кахання, «мужчынскія», сур'ёзныя гісторыі Георгія Кісялёва з марскім штормам, тундрай, сопкамі і іншай небеларускай экзотыкай... Калі вам імпануюць амплуа лірычных герояў, паэзія гэтага нумара будзе да густу!

***

**Выдатна,** калі паэт сталага веку не засядае ў мінулым, не аддаецца песням-жальбам пра спачылую маладосць і застаецца сучасным — не ва ўжыванні навамодных слоўцаў, але па самапачуванні. Усё гэта справядліва датычна паэзіі Віктара Гардзея, якая прадстаўленая ў сакавіцкім «Полымі» падборкай «Час ляцяць, як перапёлка ў жыта...». Пасля таго, як назва падборкі агучаная, чытач можа абурыцца: вы толькі што сказалі, што Гардзей не хварэе на старэчую настальгію, а тут — «час ляцяць». Так, але ў тым і цымус, што, канстатуючы ісціны, быць можа, невясёлыя, сам аўтар застаецца бадзёрым, а лепей нават сказаць — стаічна-аптымістычным. Паэзію Гардзея найперш адрознівае ўласная мова, глыбока паэтычная. Такая мова ператварае любую дробязь у мастацтва. Прыкладам, як увесці ў лірычную карціну камбайн? Гучыць камічна, ці не так? Можаце не паверыць, аднак у Гардзея камбайн «гучыць» не менш рамантычна за які-небудзь лятучы галандзец. Пра непадробную арыгінальнасць паэта гэтаксама кажа абсалютная адсутнасць штампаў. Падаецца, гэта адна з вызначальных рысаў літаратуры: калі чытач не ведае, пра што пойдзе размова ў наступным радку і як гэтая размова будзе весціся.




**Сумніўнымі** падаюцца асобныя радкі ў паэтычных нізках Святланы Быкавай і Алеся Камароўскага. Напрыклад, «вясна шыбуе па прасторах» гучыць даволі супярэчліва, ці «як на цымбалах, грае ў голлі», ці вобраз вады, якая наталяе «аскому губ». Увогуле трэба сказаць, што вершы гэтыя маюць паэтычную (неграфаманскую) прыроду, аднак да слова варта ставіцца больш уважліва, калі вы, вядома, чакаеце, што нехта вас усё ж прачытае.

**На суд чытача** мы пакінем празаічную публікацыю Аляксандра Вашчанкі. Гэта якраз той выпадак, калі неасцярожна падабранае слова можа папсаваць някепскую справу. Так, спадар Аляксандр апублікаваў шэраг маленькіх празаічных замалёвак з гістарычнай спадчыны свету, не толькі Беларусі, якія займелі назву «Каралі, світа і просты люд...» і падзагаловак, які якраз і ўносіць невялічкую смуту: "Павучальныя гісторыі часоў Грунвальдскай бітвы". З тым, што пісьменнікі павучаюць дзяцей, мы ўжо неяк звыкліся (хоць гэта й няправільна, вядома). Але да каго звяртае свае павучанні Вашчанка?.. Можна меркаваць, вядома, што гэта такая гумарыстычная форма, павучанне з іроніяй, аднак у такім разе іранічны складнік варта было б узмацніць.

***

**Выдатна.** І ў сакавіцкай «Маладосці» гэтаксама найлепшай мастацкай публікацыяй аказваецца паэтычная нізка. Маргарыта Латышкевіч добра ўтрымлівае раўнавагу паміж сантыментам і працай над словам. Пачуццё не скажае форму верша, тэхнічная выверанасць не забівае жыццё слова. Назва нізкі «Па лесвіцы з месяцовых промняў» быццам бы падказвае: тут — рамантыка, тут — фантазіі, тут — дзявочае вершаванне... Падказка няправільная. Насамрэч, заўжды не пакідае адчуванне, што ўсе светлыя эцюды ў вершах спадарыні Маргарыты — толькі супрацьвага той цемры, якую аўтарка не выносіць на суд чытача. Ідзе нябачнае змаганне, і чытач бачыць толькі яго плён — святло паэзіі. Іншае — за кадрам, і, відаць, так і павінна быць. Асаблівую ўвагу звяртае на сябе верш пра «кніжных дзяцей», эпіграфам якому служыць радок з вядомага верша-песні Уладзіміра Высоцкага. Гэты верш немінуча мусіць увайсці адной чы ў зборнік вершаў М. Латышкевіч.




*...Нам забыцца на Слова —*
*горш, чым пазбыцца жыцця:*
*я паходжу са сціплага племені «кніжных дзяцей».*
*І, узняўшы да неба свой папяровы сцяг,*
*я шукаю вачыма дарогі былой працяг,*
*я працягваю рукі да тых,*
*хто за мной ідзе.*

**Сумніўна**, што пасля радкоў, якімі адкрываецца падборка вершаў Анатоля Зэкава («Неўтаймаваны мой характар — / яго наўрад ці зацугляць, / калі я сам, нібыта трактар, / гатовы ўсё наўсцяж араць...»), чытач знойдзе ў сабе сілы надалей пазнаёміцца з творчым светам аўтара.

**На суд чытача.** Адкрыем Амерыку, калі скажам: ёсць такая рыса ў «маладой» паэзіі — нагрувашчванне слоў ды сэнсаў без пэўнай мэты. Гульня з моваю захоплівае маладых аўтараў, яны безаглядна аддаюцца ёй, і гэта дае цікавы плён: нечаканыя спалучэнні — як яркія выбліскі ў цемры; непаўторнасць, бо імправізацыя і стыхія — непаўторныя па сваёй сутнасці; шчырасць — яшчэ не гарант добрага твора, але нешта ёсць невід'ёмнае ў складнік — неаспрэчна. Усё гэта ёсць, але варта задацца пытаннем: навошта?.. Этап гульні са словам неабходны, яго праходзяць як этап фарміравання асобы, творцы, стылю. Поўнае разбурэнне правілаў дае магчымасць стварыць свае творчыя «догмы», не паўтараючы досвед (а значыць, і памылкі) папярэднікаў, якімі б мудрымі яны ні былі. Паэты сакавіцкай «Маладосці», пэўна, якраз на гэтым этапе самавызначэння і знаходзяцца (за выняткам згаданай вышэй Маргарыты Латышкевіч). Тут найперш маем на ўвазе публікацыі Марыі Бадзей і Дзяніса Шпіронка. Крыху іншага характару творчыя спробы Бажэны Мацюк — класічная форма, рыфма і г. д. Але й тут пачуццё пераважае. Для разумення аўтараў новага пакалення можна прывесці радкі спадара Дзяніса:

*Ты калісьці быў проста дзіцём,*
*Што плыло паслухмяна*
*Па моры глыбокіх эмоцый.*

Па гэтым самым моры нашыя аўтары плывуць дасюль. У гэтым плаванні замест ветразя можа паслужыць запавет Максіма Багдановіча: "Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш, / Абрабіць яго трэба з цярпеннем».

Гэтаксама раім чытачу звярнуць увагу на апавяданні Аляксандры Хамянок, асаблівa на «Сябра».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**Наста ГРЫШЧУК**

*Надрукавана ў «Нёмане»*

# У Падую, на іспыт

**Сонечны дзень у Падуі, ля гасцініцы спыняецца малады ўсмешлівы мужчына, які размаўляе па-італьянску з дзіўным акцэнтам. Вядома, падарожніка завуць Францыскам, і ў першага ж дасведчанага суразмоўцы ён пытаецца, ці ёсць у горадзе свая друкарня.**

Але ў аповесці Таццяны Лашук «Экзамен» («Нёман», № 3) Францыск Скарына яшчэ не ўзбагачае, услаўляе і ўздымае, а трапляе ў некалькі прыгодаў і паспяхова здае іспыт на годнасць доктара медыцынскіх навук. Малады Скарына цікавіцца кнігамі, на практыцы выкарыстоўвае свае медыцынскія веды, але не менш значным аказваецца яго дасведчанасць у футрах і скурах, а таксама знешняя прывабнасць...

Галоўны герой паўстае чалавекам дзейсным, бадзёрым і жыццярадасным. Вернасць лекарскім абавязкам, здаровы практыцызм і іншыя рысы Скарыны выяўляюцца праз канкрэтныя ўчынкі і стасункі з іншымі каларытнымі персанажамі. Дзякуючы некалькім эпізодам Таццяна Лашук — гісторык па адукацыі — змяшчае свайго героя ў кола творчай і інтэлектуальнай эліты эпохі Адраджэння. Так, Скарына згадвае Рафаэля Санці як свайго шаноўнага сябра: у кампаніі знакамітага мастака ён працаваў цэлае лета і выкладаў анатомію будучым жывапісцам. Ці верагодна гэта? Чаму б не, тым больш што на адной з фрэсак Рафаэля ёсць аблічча, якое вельмі нагадвае твар беларускага першадрукара... У Падуі Францыск мае кароткую амурную гісторыю з сіньёрай Альвароці — прадстаўніцай знакамітага венецыянскага роду, і менавіта з яе фінансавай падтрымкай дапускаецца да здачы экзамену, які падрабязна апісваецца ў творы.

Таццяна Лашук дэманструе, што многія ідэі і вядомыя выказванні Скарыны з'явіліся не падчас чытанняў кніг і доўгіх самотных разваг, а ў непасрэднай камунікацыі з сучаснікамі, якім даводзілася тлумачыць любоў да Радзімы, распавядаць пра значнасць Бібліі альбо перакладаць на простую мову незразумелыя малітвы. Ствараючы вобраз эпохі, аўтар выяўляе рэальныя абставіны, якія вызначылі мэты кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны. У творы багата цікавых дэталяў, якія дазваляюць уявіць жыццё пачатку XVI стагоддзя: у заможных італьянскіх сем'ях пачынаюць карыстацца відэльцамі, бялізну адбельваюць у спецыфічным растворы з непрыемным пахам, падуанскія прыгажуні гадзінамі сядзяць на балконах, каб асвятліць валасы...

Пазнавальная аповесць з цікавым сюжэтам і прывабным паспяховым героем зацікавіць шырокую аўдыторыю, пачынаючы з вучняў сярэдняй школы. Адкрыты, сумленны, кемлівы, просты ў стасунках — такім паўстае Скарына ў творах пачатку XXI стагоддзя, і гэты вобраз мае імпанаваць нашчадкам першадрукара.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# МІЖСЕЗОННЫ КНІГАЗБОР

## Што прэзентаваў беларускі кніжны рынак?

**Школьнікі скончылі трэцюю чвэрць, атрымалі заслужаныя адзнакі і нават адгулялі вясновыя вакацыі. У пісьменніка вакацый няма, у яго, як у цара, ненармаваны рабочы графік. Але чаму б і нам не падагуліць вынікі за «творчую чвэрць»?.. Прыкладам, разгледзець новыя кнігі, што з'явіліся на кніжных прылаўках ужо сёлета.**

### ТРЫ ПУНКТЫ АДЛІКУ

Дэбютныя зборнікі вершаў Аляксея Арцёмава, Ганны Комар і Яўгена Бясчаснага датуюцца 2016 годам. Так, работа над кнігамі была завершаная напярэдадні Новага года, аднак сапраўднае жыццё іх пачалося толькі ў 2017-м. Што цікава, кніга Аляксея Арцёмава «Скрозь кіламетры» ўжо адзначаная літаратурнай супольнасцю: аўтар трапіў у тройку паэтаў-фіналістаў прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча.

Калі вы час ад часу чытаеце нашы палосы крытыкі, дык імя Аляксея не станецца для вас незнаёмым. Паэт з Тулы піша па-беларуску і друкуецца ў нашых выданнях — ад «Маладосці» да «Верасня». Кніга ягоная па праве можа звацца доўгачаканай: па-першае, любая добрая кніга з'яўляецца такой, па-другое, паасобныя публікацыі засведчылі прыкметны талент Арцёмава, «падсумаванне» якога не цярпелася пабачыць у выглядзе кнігі.

Што ж адкрыў нам гэты дэбют? Тонкуюназіральнасць, у аснове якой — любоў да бліжняга, як бы пафасна яно ні гучала, і мяккае пакепліванне са сваіх ды чужых слабасцяў. Гэтаксама ўменне бачыць нараджае талент пейзажыста, жывапісца: прырода ў Арцёмава прасветленая, адначасова яркая і пяшчотная. Нельга сказаць, што паэзія яго належыць да «сена на асфальце», аднак спалучэнне ўрбаністычнага і адпрыроднага — вызначальная рыса. Між тым у аснове кампазіцыі, будзь то замалёўка гарадская ці вечаровы пейзаж, застаецца чалавек. Чалавек і чалавек, чалавек і ўнутраны голас, чалавек і каханне, чалавек і прырода — усякі верш можна раскласці на два такія ўмоўныя складнікі. Засталося дадаць, што Аляксей Арцёмаў прытрымліваецца класічнай вершаванай формы, што ніякім чынам не ўплывае на арыгінальнасць верша. За ўвесь час знаёмства са зборнікам мне не давялося напаткаць ніводны штамп. Рэдкая адказнасць за слова і сумленнасць — тут і аксакалам варта спусціцца з лаўраў ды павучыцца ў «вучня». Кажучы пра будучыню беларускай літаратуры, рызыкну сцвярджаць, што сярод іншых вызначальных імёнаў у ёй будзе значыцца імя Аляксея Арцёмава.

У адрозненне ад зборніка «Скрозь кіламетры», кніга Ганны Комар «Страх




вышыні» — тыпова дэбютная. Аўтарка самасвярджаецца, выяўляе сваё «я», шукае новае, нечаканае, імкнецца да арыгінальнасці, і, трэба сказаць, гэта ёй удаецца. Вершы Ганны Комар дзявочыя — не ў сэнсе коцікі-кветачкі, і нават не ў сэнсе «ты разбіў мне сэрца»: яны выяўляюць свет маладой жанчыны, светабачанне смелай, таленавітай, разумнай прадстаўніцы так званага слабога полу.

Яўген Бясчасны — паэт рускамоўны. Яго кніга «Стой!» сабрала вершы, напісаныя за шэсць гадоў творчасці. Падчас прэзентацыі кнігі аўтар прызнаўся, што «вершаў нападала як снегу, і сярод іх трэба было расчысціць дарожку». Рэдактар кнігі Андрэй Хадановіч зазначыў: «Што датычыцца кнігі — у ёй паэт ужывае не толькі словы і сказы — цэлыя тэкставыя масівы культуры, якой ён жыве і дыхае. Акрамя беларускага светаадчування тут, напрыклад, немагчыма не пабачыць Бродскага. Яго ўплыў настолькі відавочны, што аўтар даводзіць да віртуознасці ўсе гэтыя алюзіі, рэмінісцэнцыі. Але чым сталей станавіўся Яўген, тым больш ён ужываў у творах цытаты беларускіх аўтараў — вы гэта заўважыце, калі будзеце чытаць кнігу». Герой зборніка — гарадскі жыхар, непрыкметны і быццам звычайны. Але ёсць у яго адна суперздольнасць: умець спыніцца і ўбачыць, а затым сказаць мінаку-чытачу: «Стой! Азірніся». У паэтычным свеце Яўгена Бясчаснага не існуе дробязяў: кожная рэч мае значэнне, прычым адзіна магчымае, скажам так, нерухомае. Рэчы, людзі, гарады — усё ўзаемадзейнічае, і ў гэтай віхуры жыццёва неабходна ўмець пачуць вось гэтае «стой!», каб не стаць адным з мёртвых душаў.

### РАМАН З ЛІТАРАТУРАЙ

Падзеяй новага літсезона стаў выхад кнігі Ганны Севярынец «Дзень святога Патрыка». Сюжэт закручаны вакол літаратурнага свету — што прадказальна, калі ўлічыць, якім актывістам-прапагандыстам нашай літспадчыны з'яўляецца Ганна Севярынец.

У рамане ёсць антыўтапічны матыў: беларуская мова прызнаная мёртвай, і даследчыца Марына Дамейка мусіць адабраць творы нашае літаратуры для захавання ў спецархіве. Цікавы ход, які дазваляе паразважаць над вартасцямі асобных тэкстаў. Асобныя чытачы выказвалі меркаванне, што аўтарка зрабіла галоўную гераіню сваім адбіткам, маўляў, «Дзень святога Патрыка» — пра самую Севярынец і яе любоў да белліту. Аднак пісьменнік Валер Гапееў аспрэчвае гэта. Ён адзначае, што кніга неардынарная, «таму што да гэтага часу ніхто так не спрабаваў праз не нонфікшн паказаць беларускую літаратуру і яе асобаў. Калі мяне паправяць: ці не ўвесь тэкст якраз і ёсць дакументалістыка, жывыя гісторыі некалі жывых пісьменнікаў, я запярэчу. Аўтар не ставіла мэтай данесці да чытача менавіта гэтую дакументалістыку, для гэтага яна скрупулёзна і грунтоўна працуе над іншымі сваімі творамі... Раман скарыстоўвае пэўныя адшуканыя факты, канечне, але тут яны зусім дзеля іншай мэты». Дзеля якой? На гэтае пытанне мусіць адказаць сам чытач.

### ЦЁПЛЫ СНЕГ

Цэлы шэраг цікавых выданняў прэзентавала сёлета выдавецтва «Галіяфы». Пачаць варта з кнігі паэзіі Вольгі Гапеевай «Граматыка снегу». Увесну не надта хочацца вяртацца да такой снегавой тэматыкі, аднак зразумела, справа не ў зіме: снег тут — сімвал першапачатку, чысціні слова і сэнсу. Пачынаючы з такога вось белага ліста можна наноў паглядзець на рэчы звыклыя. Як пазначае анатацыя, кніга пашырае межы ўсведамлення штодзённасці, дзе словы і значэнні ўглядаюцца адно ў адно ў надзеі пазбегнуць самоты. Гэта своеасаблівая граматыка ўзаемін чалавека з сусветам праз мову. Сімвалічнасць снегу, якая пранізвае кнігу наскрозь, выклікае бязмежнасць інтэрпрэтацый паэзіі Вольгі Гапеевай. Зрэшты, усякае добрая паэзія прадугледжвае бязмежнасць інтэрпрэтацый. Засяроджанасць на слове дазваляе паэтцы быць дакладна-нешматслоўнай, і гэта вельмі імпануе, як мне думаецца, сучаснаму паспешліваму чытачу. Аднак лаканічнасць такая ў той жа час вымагае ад чытача паўзы ў бесперапынным бегу жыцця: як казаў Бясчасны, стой, падумай, заўваж.

Адасобімся ад мастацтва і звернемся да навукі. Вяртаннем забытых герояў не першы год займаецца гісторык з Заслаўя Ігар Мельнікаў. Ягоная апошняя выдадзеная кніга так і называецца: «Забытыя героі». Работа прысвечаная гісторыі




ўдзелу беларусаў у барацьбе с нацызмам у складзе Польскіх узброеных сіл на Захадзе. Найперш размова ідзе пра жаўнераў Другога польскага корпуса і Першай асобнай польскай паветрана-дэсантнай брыгады. Аўтар нязменна прытрымліваецца дакументальнай асновы, выкарыстоўваючы ўнікальныя архіўныя матэрыялы. Што й казаць, тэма жаўнераў Андэрса ўвогуле была закрытай на Беларусі, але цяпер навукоўцы-гісторыкі маюць вольніцу. Дзякуючы гэтым зменам мы можам адсачыць лёсы беларусаў, якія з пекла ГУЛАГа патрапілі ў іншае пекла — бойню пад Монтэ-Касіна. Апісваючы жыццё гэтых людзей, Ігар Мельнікаў закранае многа больш: лёс краіны. Разгортваецца цэлы гістарычны пласт. Кніга чытаецца з вялікай цікаўнасцю і надзіва лёгка, калі ўлічыць, што напісаная яна па-навуковаму суха (у добрым сэнсе). Аўтар стрыманы і дакладны, але факты, якімі гісторык аперуе, кажуць самі за сябе, дазваляюць адчуць на сваёй скуры тыя жахі, нястачы, рызыкі, боль, што перажывалі жаўнеры-беларусы войска польскага. Ігар Мельнікаў правёў сваю працу на выдатна. Дадае плюсаў кнізе і тое, што яна багата ілюстраваная фотаздымкамі з архіва аўтара.

Гэтаксама з новых празаічных кніг года — «Плошча Калумба» Сяргея Лапцэвіча. Яго героі — тыповыя дзівакі, якіх часта па недасведчанасці ды непісьменнасці называюць маргіналамі. Гэта філасаф-выпівоха, які калісьці ўцёк у Бруклін і марыць вярнуцца ў краіну, якой больш няма. Стары мастак, зацыклены на ідэі пераемнасці, адбірае ў роднай дачкі яе сына. Мілая, здавалася б, дзяўчына Надзя, жадаючы як найлепш, дасягае акурат зваротнага выніку: «вучыць усіх прастасці, ламаючы лёсы». Ці гісторыя пра менеджара, які мае ўсё, што трэба, але не разумее: дзеля чаго? Ён «спрабуе адшукаць парэшткі сэнсу ў сабе і навакольным свеце». Рэцэнзенты адзначаюць у прозе Сяргея Лапцэвіча экзістэнцыйны кантэкст, псіхалагізм і дакладнасць дэталяў. Экзістэнцыйны кантэкст — азначэнне сумніўнае па-за межамі філасофскай навукі: так ці інакш, усякі твор, хоць бы й прыпеўка, мае такі кантэкст, бо размова пра жыццё чалавека. Тут хутчэй маецца на ўвазе ўзіранне ў сутнасць чалавечых комплексаў, аналіз праблем, якія суправаджаюць людзей, якія выглядаюць быццам бы шчаслівымі, разумнымі і г. д. А ўрэшце рэшт, усім нам трэба толькі адно — любоў і прызнанне.

Асобна вылучым перакладныя выданні — "Зіма Гюнтэра" Маркаса Хуана Мануэля і «Каменны патоп» Холера Франца. Першая была названай кнігай году ў Асуньёне ў 1987-м. Раман аўтар перапісваў дзесяць разоў цягам трынаццаці гадоў (нашыя, відаць, на такое не здольныя: як напісаў, так і цудоўна). Знаёмячы чытача з кнігай, укладальнікі пазначаюць: «У тэксце па-майстэрску спалучаюцца авангардныя літаратурныя тэхнікі і рысы постмадэрнізму, ад плыні свядомасці Джойса ды Фолкнера да поліфанічнага дыялогу і карнавалізацыі Бахціна. "Зіма Гюнтэра" — адкрыты раман, у якім пераплецены дэтэктыўная інтрыга, ода каханню, сацыяльная сатыра, глыбокі роздум аб гістарычных каранях парагвайскай нацыі ды іранічны погляд, не пазбаўлены гумару і эратызму, на парадоксы нашага часу». Галоўны герой, эканаміст Гюнтэр, немец па факце, а на паперы парагваец, жыве ва ўмовах паўднёваамерыканскай ваеннай дыктатуры. Акром грамадзянскага гучання раман вядзе яшчэ некалькі ліній, сярод якіх цікавая лінія міжнацыянальных адносінаў.

Холер Франц у "Каменным патопе" рапавядае пра своеасаблівыя пампеі: 11 верасня 1881 года швейцарская вёска Эльм пацярпела ад камняпаду, выкліканага тэхналагічнай памылкай прамысловаздабыўчай справы. Аўтар разглядае два апошнія спакойныя дні перад катастрофай, прычым на свет ён глядзіць вачыма сямігадовай Катарыны Дыш, дзяўчынкі, якая вельмі тонка адчувае свет. Зварот да дзіцячага светапогляду — калі ён майстэрскі — заўжды кранальны




і стварае эфект пранізлівай шчырасці. На такім фоне трагедыя вёсачкі гучыць яшчэ выразней. Перажыванні, клопаты, радасці дзяўчынкі набываюць асабліва драматычнае гучанне, калі чытач загадзя ведае, што чакае маленькую гераіню наперадзе.

...Паэзія традыцыйная і моладзеваправістая, рускамоўная і беларускамоўная, погляды дзявочы і мужчынскі, проза пра нас і пра забытых герояў, творы айчынных аўтараў і замежных — як бачым, выбар надзвычай багаты, і, пэўна, нешта з апісанага вам прыйдзецца да душы. Добрая кніга, як і добрае надвор'е, можа стацца аздобай вясны.

**Наста ГРЫШЧУК**



Валерый КАЛІНІЧЭНКА

«Маскоўскі беларус» Валерый Калінічэнка нарадзіўся ў вёсцы Уборкі Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС давялося з сям'ёй пакінуць родныя мясціны, перабрацца ў падмаскоўную Шатуру. Працуючы ў газеце, заснаваў выдавецтва, якое падрыхтавала і выпусціла ў свет дзясяткі твораў расійскіх аўтараў падмаскоўнай глыбінкі. Там жа завяршыў і выдаў раман «Асуджаныя на шчасце» і аповесць «Тайнае галасаванне», над якімі распачынаў працаваць яшчэ ў Беларусі.

Потым паехаў на працу ў сталіцу. З камандзіровачнымі пасведчаннямі многіх папулярных ведамасных выданняў Валерый Калінічэнка аб'ездзіў розныя куткі Расіі, далёкага і блізкага замежжа. Заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі, член Саюза пісьменнікаў Расіі. Не забывае пісьменнік і любыя з маленства мясціны, часта прыязджае сюды, дзе «лёсу карані». Гэтыя сустрэчы з радзімай, «вобразы мілыя роднага краю», знайшлі адлюстраванне ў шматлікіх вершах і паэмах, якія сталі асновай яго паэтычных зборнікаў «Зорны дазор», «На залатым ганку», «Роднасць», «Гасцінец» і «Баравое ляда», што нядаўна выдадзеныя ім у маскоўскіх выдавецтвах на беларускай мове. Друкаваўся таксама ў часопісе «Полымя».

Спадзяюся, шаноўным чытачам «ЛіМа» будзе цікава пазнаёміцца з творчасцю Валерыя Калінічэнкі, адчуць і ўбачыць праз слова, чым жыве паэтычная душа нашага «маскоўскага беларуса», ганаровага грамадзяніна Буда-Кашалёўскага раёна.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

## Крыніца

*Прытомлены спёкай паўдзённай,*
*Суцішыўся ў мораку дзень.*
*У хвалях крыніцы сцюдзёнай*
*Згасае апошні прамень.*

*Струменіць раўчук і спявае,*
*Бруіцца паток з глыбіні,*
*Бы сутнасць зямлі ў ім жывая,*
*Надзей і трывог карані.*

*Здарожыўся: стома і смага.*
*Прыгнулі легенды-шляхі.*
*Ваду п'ю з далоняў я прагна,*
*Прашу дараваць за грахі.*

*Пітво — ад заганаў збавенне.*
*У дні перамог і пакут*
*Я чэрпаю роднасць, натхненне*
*З крыніц тваіх, бацькаўскі кут.*

*Душу з кожнай кропляй гаючай*
*Узносяць спагада палёў,*
*Быліны дубоў па-над кручай,*
*Вясновы мажор салаўёў.*

*Світанне ў тумане клубіцца,*
*Настой баравы — да аблок.*
*Віруе між дрэў тут крыніца —*
*Сардэчных сустрэч астравок.*

## Паштовая скрынка

*На далонях духмяных палеткаў,*
*У разгалістых сховах лясоў*
*Я шукаў басаногім падлеткам*
*Свой прыстанак на кручы часоў.*

*У кішэні ёсць хлеба скарынка —*
*І ў паход па таемных кутах.*
*А паштовая сіняя скрынка*
*Тайны новыя несла ў лістах.*

*Геаграфія шырыла межы*
*За гудкамі начных цягнікоў.*
*А за імі імчалі ў свет снежны*
*Летуценні гарэз-хлапчукоў.*

*Родны кут, на спатканне з табою*
*Праз набыткі і страты прыйшоў.*
*З непакрытай стаю галавою*
*Каля вясніц да казачных сноў.*

*Колькі часу прайшло, праляцела:*
*Паўстагоддзя між намі ляжыць.*
*Пакасілася і апусцела —*
*Сіратліва хаціна дрыжыць.*

*На сцюдзёных вятрах перамерзла,*
*А калісь мальцу грэла душу,*
*Пакуль плынь таго ў рань не панесла.*
*Бы цяпельца, гады варушу...*

*За ваколіцай клікнула скрыпка,*
*Ды няма каго ёй весяліць.*
*А паштовая сіняя скрынка,*
*Як раней, каля брамы вісіць.*

## Вясновая пяшчота

*Жаўрук у сіні веснавой лунае.*
*Хвалюе песняй сонечную рань.*
*Хаду дзень новы шпарка пачынае —*
*У каляровую кіруе здань.*

*Блакіт заліў прастор да гарызонту,*
*Па поймах рэк плыве за небакрай.*
*З ніў коцяць хвалі пасяўнога фронту.*
*Ім салютуе зелянінай гай.*

*На лузе кружаць кветкі ў карагодзе.*
*Вясёлка вышываным ручніком*
*Свет агарнула і пры ўсім народзе*
*Лупцуе далі ўсцяж касым дажджом.*

*На крылах ветрыку настрой маёвы*
*Разносіцца ва ўсе куты зямлі.*
*Пасля накіне вечар паркалёвы*
*І на начлег — на зорныя палі.*

*Там стрэне заўтра. Свята і турбота!*
*Не скончыцца парад маіх гадоў,*
*Пакуль душу вясновая пяшчота*
*Будзе купаць у водары садоў.*

## Вандроўнік

*Гудзе паўночны вецер —*
*Вандроўнік, фаталіст.*
*Нясе па белым свеце*
*Дажджамі збіты ліст.*

*Нядаўна ён на клёне*
*Шаптаўся, гаманіў,*
*Што ў восеньскім палоне*
*На ўзлёт сябе натхніў.*

*Сцвярджаў, увесь барвовы:*
*— Да твару колер, клас,*
*Няхай прыкід не новы,*
*Ды не зялёны ў нас.*

*Гудзе паўночны вецер —*
*Вандроўнік, фаталіст.*
*Ён закахаў да смерці*
*І знёс з радзімы ліст.*

***

*Дала мне ў спадчыну Айчына*
*Лёс у вірах часоў і рэк,*
*Над чоўнам ветразь,*
*Статус сына,*
*Каб з іх адбыўся чалавек.*



Васіль БІРУК

***

*Пасвет зары апошняю лучынаю*
*Датлеў і згас над столлю неба зорнаю.*
*Крылом махнула ночка салаўіная*
*І кінулася прэч гаямі чорнымі.*

*Гарачай лавы хваляю бязгучнаю*
*Узбіўся усход пякельным золатам,*
*Магутна промні ўдарылі сляпучыя —*
*І слуп агню паўстаў над гарызонтам!*
*Зайшоўся ў крыку дзень*
*нованароджаны...*

## У дзедавай хаце

*Шчымліваю тонкаю нотай*
*У хаце звініць цішыня,*
*Сціскае за грудзі сумота*
*Асенняга мокрага дня.*

*Старэнькі насценны гадзіннік,*
*Спрабуючы час запыніць,*
*Сячэ і сячэ на хвіліны*
*Вякоў непарыўную ніць.*

*А з рамаў, нібыта з-за кратаў,*
*Над шэраю плямай акна*
*З пацёртых зрыжэлых картак*
*Тужліва глядзіць даўніна.*

***

*Поўня ўзыдзе над дахамі хатаў*
*Ці зашэпчуцца вербы ў паўсне —*
*Ціхі водгук далёкае страты*
*Раптам сэрца тугой захлісне.*
*Пазаве, загукае без гуку*
*З незваротнай чароўнай пары.*
*Без надзеі, шчымліва і глуха.*
*І замрэ... Нібы свечка згарыць.*

***

*Што адышло — душу не параніць,*
*Хоць і пакінула ў сэрцы сляды.*
*Зноў у былое скіроўвае памяць —*
*Непаслухмяны мой павадыр.*

*Дзверы ў дзяцінства адчыняцца ціха...*
*Вось я на родным ускрайку сяла...*
*Там, дзе зліваліся Моства і Сцвіга,*
*Хата бацькоўская колісь была...*

*Горбіцца хатнішча, нібы магіла.*
*Леташні ліст на былінцы дрыжыць.*
*Ветлы панурыя кучкай пахілай*
*Збоч вінавата стаяць, як крыжы.*

*Як мы плёскаліся ў рэчцы вясёлай!*
*Зязяў над вадою пясок залаты!*
*Ўсё адышло і не вернецца болей...*
*Вее самотай ад цёмнай вады.*



Фота Кастуся Дробава.

***

*Доўга спала душа агрубелая*
*Сярод даўніх пачуццяў магіл.*
*Ды дзівоснаю зоркаю белаю*
*Узышла ты на мой небасхіл.*

*Распрасталіся крылы самлелыя*
*На тваё трапяткое святло.*
*Вось і першыя ўзмахі нясмелыя...*
*Узнялася душа на крыло!*

*Узляцела яна — неразважная,*
*Хоць адчула і подых бяды.*
*Толькі ж вельмі ўжо ты недасяжная...*
*Мабыць, зоркі такія заўжды.*

*Зззяеш ты ў вышыні, недаступная,*
*Зрэдку кінеш прамень залаты...*
*На зямлі без цябе я пакутую.*
*Ці ж не ведаеш гэтага ты?*

*Час бруіцца ракою празрыстаю...*
*Сцежкі лёсу ніхто не міне.*
*І я веру, што знічкай агністаю*
*Ты аднойчы зляціш да мяне!*

***

*Увайдзі у мяне, як у восеньскі сад,*
*Зацярушаны сонца саломаю.*
*Хоць пладоў залатых ты там*
*знойдзеш няшмат —*
*Усё горкія ды зялёныя...*
*Увайдзі у мяне, як увосеньскі сад.*

*Увайдзі у мяне, як у восеньскі сад,*
*Пад галін маіх крылы шырокія.*
*Цішынёй патаемных цяністых палат*
*Я сустрэну цябе, чарнавокая.*
*Увайдзі у мяне, як у восеньскі сад.*

*Увайдзі у мяне, як у восеньскі сад.*
*Цёплы сонечны зайчык гарэзлівы*
*Бестурботна задрэмле ў тваіх валасах*
*І сцячэ жураўлінаю песняю.*
*Увайдзі у мяне, як у восеньскі сад.*

*Увайдзі у мяне, як у восеньскі сад,*
*Па сцяжынцы прайдзі каруначкавай.*
*І асыпле цябе ранні мой лістапад*
*Залацістымі пацалункамі.*
*Увайдзі у мяне, як у восеньскі сад.*



Галіна МАРОЗ

## Прывітанне

*Вітаю! — якое чароўнае слова,*
*Празрыстае, быццам бы кропля расы,*
*Добрых намераў жывая аснова,*
*Ясны адбітак душэўнай красы.*
*А як аздоблена лёгкай усмешкай,*
*Вартасць яго вырастае ўдвая,*
*І ні пры чым тут жыццёвая спешка,*
*Праца, вучоба, турботы, сям'я.*
*А як сустрэнеш з агеньчыкам вочы,*
*Добры настрой завітае наraз,*
*І цеплыню свайго сэрца захочаш*
*Хутка даслаць з прывітаннем ў адказ.*
*Досыць прыемны такі падарунак*
*Ні аднаго не каштуе рубля,*
*Ад летуценнасці лепшы ратунак —*
*Цешыць і зблізку, і нават здаля.*

## Калыханка

*Спіце хлопчыкі, дзяўчынкі, заплюшчвайце вочкі,*
*Для таго, каб дзеткі спалі, і прыходзяць ночкі.*
*Месяц носік прыхаваў у цёплыя далоні,*
*Сад галінкі апусціў, нібыта ў паклоне.*

*Ветрык на гары прылёг, моцна прытаміўся,*
*Лес пуховаю пярынай з галавой накрыўся.*
*Спіць і возера ў цішы, і на небе зоркі,*
*Пахаваліся звяры ў цёпленькія норкі.*

*Казкі, песенькі і цацкі ўсе даўно паснулі,*
*Сон ціхутка плешча ў ладкі: люлі, люлі, люлі...*



Мікола АДАМ

# КОМА

*Апавяданне*

Спачатку я ішоў гуляючы і, быццам мяч, футболіў перад сабой каменьчык, які з кожным ударам па ім павялічваўся ў памерах. Вось ён стаў каменем, затым валуном, потым ростам з мяне. Дарога, перш асфальтаваная, таксама змянялася да горшага. Са жвіровай ператварылася ў пясчаную, пасля ў размытую, быццам пасля зацяжнога дажджу, каляіну з выбоінамі, калдобінамі, буяракамі ды ямамі. Нярoўна выгінаючыся, нібы змяя, яна накіроўвалася кудысьці ўвысь, знікаючы за гарызонтам. Шлях вёў пад гару, і я пхаў у гэтую гару каменную круглявую сцяну, не зважаючы на марнасць высілкаў, таму што назад павярнуць не мог з-за інстынкту самазахавання. Пакаціўшыся з гары, «Сізіфаў камень» прыхлопне мяне і раздушыць у аладку. Толькі мокрае месца і застанецца.

Бессэнсоўную маю працу каменціравалі, нібы падзеі ў сацсетках, два галасы. Яны раздаваліся аднекуль зверху. Адзін голас здаваўся вельмі прыемным і добразычлівым, другі рыпеў, як нязмазаныя дзвярныя завесы.

— Дурань чалавек! — заяўляў горшы голас.

— Не, не дурань! — адмаўляў голас прыемны.

— А я кажу — дурань, які не заслугоўвае нават долі секунды нашай увагі! — настойваў рыпучы.

— Ты памыляешся, — мякка пераконваў, быццам непаслухмянае дзіцё, дабратворны.

— Навошта тады ён пхае ўгару гэты непасільны для яго цяжар, стагоддзямі стоячы на адным месцы, не прасунуўшыся і на міліметр? Ён не дурань, згодны, — ён ідыёт!

«Стагоддзямі? — насцярожыўся я, прыслухоўваючыся да галасоў. — Пра каго гэта яны?»

— Не гарачыся, — угаворваў па-ранейшаму добры голас. — Гэта ж яго жыццё, яго лёс. Ён не можа адмовіцца ад самога сябе.

— У … такое жыццё і лёс! — вылаяўся рыпучы. — Я магу прапанаваць яму змяніць яго будучыню да лепшага!

— Але тады ты запатрабуеш вялікі кошт за гэта з яго ж.

— Вядома! А як інакш? Але ў адрозненне ад цябе я, прынамсі, маю сумленне і дазваляю выбіраць. Ты ж бясспрэчны. Твая жорсткасць, утоеная пад дабрадзейнай маскай, бязмежная. Па-твойму, чалавек народжаны для пакут і толькі яго несмяротная душа годная для раю? Ты ў сто мільёнаў разоў горшы за мяне ў такім разе! Ты ж стваральнік чалавецтва! І як ставішся да сваіх дзяцей? Маркіз дэ Сад, Гітлер і Сталін разам узятыя нервова курацы побач з табой!

— Таму што ты зменіш іх будучыню.

— Я прапаную ім угоду. Жыць, а не гібець...

— У абмен на іх душы.

— Кім бы яны былі без мяне? Адольф пэцкаў бы паперу агіднай мазнёй, лічачы сябе пакутнікам ад мастацтва, і звар'яцеў бы ад зайздрасці да Далі і Пікасо. Іосіфа б Ленін загадаў расстраляць за шматгадовае супрацоўніцтва таго з царскай ахранкай. Дэ Сад мне проста спадабаўся. Ён нагадваў мяне ў маладосці. Я разгледзеў у іх нечалавечы патэнцыял!

— І ўзмацніў сваёй падтрымкай?

— Зразумела! Мне ж патрэбныя душы, якімі яны і забяспечылі ў неабмежаванай колькасці. Ізноў жа, паўтаруся, у іх быў выбар. Чаму ж яны не даверыліся табе, свайму так званаму бацьку? Маўчыш? А я табе адкажу. Таму, што ты кінуў іх, патрабуючы беспярэчнага падначалення сабе. А як падпарадкоўвацца таму, каго няма?

— Яны аблудныя авечкі.

— Вось! Ты ставішся да сваіх стварэнняў як да авечак, я ж вызваляю запал, характары, моц! Не ва ўсіх, вядома. Галоўным чынам, ты маеш рацыю, твае дзеці ў большасці сваім статак. Балванчыкі, адным словам, дурні, ідыёткі, як гэты, унізе.

— Ну дык прапануй яму свае паслугі.

— Ты сур'ёзна?

— Цалкам.

— Страціш яшчэ адну несмяротную душу.

— Паглядзім.

— Што тут глядзець? Ён жа не зусім дурань. Зрэшты, выбачай, я не хачу цябе пакрыўдзіць.

Уважліва слухаючы размову двух невядомых, я раптам зразумеў, хто яны, аднак не верыў да канца ў сваю правасць, пакуль...

...цудоўным чынам не апынуўся на воблаку ў кампаніі Бога і Д'ябла, прычым Бог быў чарнаскурым і паходзіў на галівудскага акцёра Моргана Фрымана, які неаднойчы выконваў ролю Бога ў кіно, а Д'ябал быў падобны на кінавампіра — такі ж бледны млявы прыгажун у белай тройцы і лакаваных туфлях з чорнымі крыламі за плячыма.

— Не глядзі ўніз! — Д'ябал нібы прачытаў мае думкі, бо цікаўнасць выклікала зусім не чароўна-д'ябальскае суседства, а наколькі высока мы знаходзіліся над зямлёй. Я ледзь не зваліўся з воблака пры гэтым.

— Добрага дня! — па-бацькоўску звярнуўся да мяне Бог.

— Ён не здзіўлены! — заўважыў Д'ябал, кажучы Богу пра мяне ў трэцяй асобе, нібы мяне тут не было.

— Прывітанне! — працягнуў я руку для поціску спачатку Богу, затым Д'яблу, і абодва паціснулі яе. — Я што, памёр? — спытаў.

— А як табе больш падабаецца? — пытаннем на пытанне адказаў Д'ябал.

— Не хацелася б быць мёртвым, — сказаў я на гэта.

— Ну дык і не будзь, — параіў Д'ябал. — Хоць, — пацікавіўся, — што добрага ў тваім жыцці?

— Жыццё само па сабе добрае, — прамовіў я.

— Ды ну?! — не паверыў Д'ябал. — Абстракцыя — твой канёк? — дамагаўся ад мяне шчырасці. — Сваіх думак неназапасіў?

Я пазіраў на Бога, шукаючы падтрымкі ў яго. Аднак той захоўваў маўчанне і толькі ўсміхаўся блажэнна, быццам вар'ят.

— А што ты ўсё на Бога паглядаеш? — падлавіў Д'ябал. — На Бога спадзявайся, але і сам нешта рабі, — нагадаў. — Тым больш што адказ на пытанне, які патрабуецца ад цябе, не з разраду вышэйшай матэматыкі. Дарэчы, пра Бога. Ты хоць верыш у яго? Не гэтага, які сядзіць перад табой, а ўсюдыснага выратавальніка, маці яго?

Я гатовы быў пакласці Д'ябла на лапаткі сваімі высновамі пра жыццё, але да пытання пра веру ў Бога гатовы не быў, таму запнуўся на першым жа слове.

— Ды ты бязбожнік! — выклікнуў Д'ябал. — Атэіст?

Бог не зводзіў з мяне свайго пільнага позірку, але добрага, без пагроз. Што ён чакаў пачуць?

— Я не веру ў чароўнае з'яўленне чалавека, — асцярожна вымавіў я, — але і ў паходжанне чалавека ад малпы шляхам эвалюцыі — таксама.

— Ён відавочна сумняецца ў тваіх здольнасцях стваральніка! — намякнуў Д'ябал Богу цішком, але так, што я пачуў. — Уся твая праца дарэмная.

— Ва ўсяго ёсць стваральнік, — нарэшце загаварыў Бог. — Нічога з нічога не можа паўстаць, нават шляхам эвалюцыі.

— Сапраўды! — падхапіў я.

— А чаго ты цешышся? — незалюбіў Д'ябал. — Бога ж няма, па-твойму!

— Калі няма Бога, няма і Д'ябла, — вымавіў Бог.

— Трэба ж, — пляснуў у ладкі Д'ябал, — якая прыкрасць! Вось толькі адна нестасовачка, чалавек, — усміхнуўся не з дабром у мой бок, — гэта цябе няма.

— Я ўсё-ткі памёр? — дапытваўся я праўды.

— А што ёсць смерць? — ніхто не спяшаўся мне дапамагчы.

Я пацісну плячамі.

— Дурны-дурны чалавек, — пакруціў галавой Д'ябал, цокнуўшы языком. — Ты бачыш відавочнае, але за-за вузкага мыслення адмаўляеш тое, што невытлумачальна. Табе складана паверыць уласным вачам, таму што твой мозг працуе павольна. Нікчэмны і абмежаваны, ты вешаеш цэтлікі на тых, чый мозг адкрыты ведам, і ізалюеш іх у спецыялізаваныя ўстановы, каб спыніць іх існаванне фізічна. Не ты канкрэтна, вядома, але і ты далёка не сышоў. Я не бачу нічога добрага ў чалавеку, акрамя яго душы. Аднак не будзь я гарачым калекцыянерам душ, душа чалавечая была б такая ж бескарысная, як і яе пасудзіна.

— Прыпыні! — Бог узнагародзіў Д'ябла падзатыльнікам. — Прыпыні лухту плесці!

— А ты спалі мяне на вогнішчы як ерэтыка ў часы інквізіцыі! — параіў Д'ябал Богу, папраўляючы растрапаную прычоску. — У імя тваё гэтыя ідыёты спальвалі жыўцом сотні тысяч прыгожых, па чалавечых мерках, жанчын, спрабуючы з іх дастаць мяне, таму што ўсё прыгожае — ад Д'ябла, ці не так? — хітры позірк на мяне.

— Што ёсць, тое ёсць, — пагадзіўся я. — І ўсе войны вялося, — працягваў, — у славу божую і з яго дазволу. Прынамсі, у гэтым запэўнівалі людзей. Жорсткасць і гвалт суправаджаліся спевамі пра тое, што так Бог загадаў, у якога верылі ад страху. У Бога прымусілі верыць. У яго паверылі ад безвыходнасці адны, іншыя ж выкарыстоўвалі гэту веру, каб трымаць людзей у падначаленні, за непадпарадкаванне абяцаючы вечныя пакуты. І калі Бог ёсць дабро, то чаму дабра, як такога, ад яго ніхто ніколі не бачыў? Ці не інтрыгі Д'ябла тут замяшаныя?

— Я не настолькі моцны, — запярэчыў Д'ябал, падняўшы ўгару рукі, — каб засхіліць сонца і ўтрымліваць яго ў цені на працягу тысячагоддзяў. Да таго ж, не ў маіх правілах адказваць за чужыя грахі.

— Веру ў Бога сказілі святары, — вымавіў Бог, — панабудаваўшы храмы і зацямніўшы галовы вернікаў небыліцамі, што ў гэтых храмах жыве Бог. Калі б я нават і захацеў жыць у гэтых храмах, гэта на колькі ж частак мне трэба было б падзяліцца, каб задаволіць кожнае быццам бы ёмішча Бога?

— Бог апраўдваецца? — заўважыў з кепікамі Д'ябал.

— Ставіць кропкі над «і», — паправіў Бог.

— Вы самаўхіліліся, — прамовіў я, звяртаючыся да Бога, аднак не адчуваючы ніякага хвалявання перад ім і жадання схіліцца, — і ўвесь гэты час безуважна назіраеце з вышыні за тым злом, што дзеецца ўнізе. Самае дрэннае ў тым, што вам падабаецца глядзець на тое, што адбываецца вакол, быццам фільм у кінатэатры.

— Я вас стварыў! — выклікнуў Бог.

— Яшчэ скажыце: я вас спарадзіў, я вас і заб'ю, — падказаў я. — Адзін бацька так і зрабіў са сваім сынам.

— Пра што гэта ён? — пагрядзеў Бог на Д'ябла.

— Пра каго, — паправіў зараз Д'ябал Бога.

— Ну і пра каго? — нецярпліва перапытаў Бог. — Не пра мяне ж?

— Амаль, — хітра ўсміхнуўся Д'ябал. — Быў такі пісьменнік Гогаль. Ён уклаў твае словы ў вусны свайго персанажа Тараса Бульбы, між іншым, барацьбіта за справядлівасць і прыгнечаных, які застрэліў свайго малодшага сына за нібыта здраду. Тым часам як яго сын проста быў закаханы і дзейнічаў па законах Кахання, якія жыццёвым правілам не падпарадкоўваюцца.

— Дзікасць якая, — перахрысціўся Бог.

— Тарас Бульба, па вялікім рахунку, — Бог у мініяцюры, — заўважыў Д'ябал. — Душу Гогаля я змясціў у сваю калекцыю побач з душамі Пушкіна, Дастаеўскага, Булгакава, — нібы выхваляўся Д'ябал. — Усе яны, між іншым, мае даўжнікі. Ды і наогул я люблю пісьменнікаў. Сумняюся, ці мае Рай хоць аднаго, — пакрывіўся на Бога з ухмылкай, намякаючы на тое, што Рай — недасканалае месца з такім Богам.

Бог прамаўчаў, пра нешта задумаўшыся.

— Прапаную, спадар Адам, — звярнуўся Д'ябал да мяне, — загадзя паклапаціцца і вам пра знаходжанне вашай несмяротнай душы пасля смерці яе пасудзіны. Я гарантую ёй годнае суседства і бясконцыя гутаркі з лепшымі пісьменнікамі сусветнага маштабу. Як вам па правую руку Генры Мілер, Фолкнер, Фіцджэральд, Хэмінгуэй і Стэйнбек, а па левую, да прыкладу, Бальзак, Дзікенс, сёстры Брантэ і Аляксандр Дзюма?

— Яны што, усе ў вас? — перасмыкнула мяне.

— Малады чалавек, чым вы слухаеце? — не пакрыўдзіўся Д'ябал. — Усё прыгожае ад Д'ябла! З імем Бога звязаныя рабства, войны і разбурэнне.

— Не скажай.

— Мне і не трэба, — усміхнуўся Д'ябал, — калі так усё і ёсць.

— Навошта ён тут? — гледзячы ў вочы Д'ябла, ткнуў Бог пальцам у мяне.

— Ты ўжо забыўся? — засмяяўся Д'ябал.

— Не, — запярэчыў Бог, — табе нагадваю.

— Я выдатна памятаю, — склаў рукі на грудзях Д'ябал і звярнуўся да мяне з такімі словамі: — У мяне да цябе прапанова.

— Ты мне — жыццё, я табе — душу? — перабіў я яго.

— Амаль, — кіўнуў Д'ябал. — Я табе іншае жыццё.

— Навошта мне іншае? — адмовіўся я адразу.

Д'ябал пераможна паглядзеў на Бога, маўляў, што я казаў!

— Ты не спяшайся, — усё ж паспрабаваў пераканаць мяне. — У цябе будзе шанец пражыць новае, больш насычанае і цікавейшае жыццё за тое, што ты ўжо, у прынцыпе, пражыў. Хіба не заманліва гучыць?

— Не, — катэгарычна адказаў я.

— Што цябе так прыцягвае ў мінулым жыцці?

— У сапраўдным, — запярэчыў я.

— Мабыць, каханне? — здагадаўся Д'ябал. — Але не да Бога, — зняважальны погляд на Бога. — Да жанчыны. Каханне — страшная сіла, — вымавіў у канцы. — Ёй не здраджваюць. У яе вераць.

— Даволі! — спыніў яго Бог.

— А што ты крыўдзішся?! — запратэставаў Д'ябал. — Ты адвярнуўся ад сваёй паствы, Каханне яе падабрала. Твая сястра аказала табе паслугу. Толькі дзякуючы ёй чалавецтва яшчэ жыве і хоць неяк функцыянуе. Яна робіць тваю працу за цябе цалкам, цалкам цябе замяніўшы.

— Хопіць! — раўнуў Бог так, што нябёсы захісталіся, быццам арэлі.

— Ты ідыёт, Адам, — прамовіў напрыканцы Д'ябал. — Жыві пакуль, але не забывай, што душа твая прыналежыць мне. У Раі няма месца тым, хто кахае не Бога.

Д'ябал пстрыкнуў пальцамі, і я зноў апынуўся пад каменем, утрымаць які ўжо не мог. Асцерагаючыся быць раздушаным, з усіх ног кінуўся наўцёкі ад яго, што, зрэшты, было пустой задумай, калі назіраць збоку. Нахільны спуск з гары надаваў хуткасці мне, але і велізарнаму каменю за маёй спінай таксама. Усё мінулае раней жыццё, спрэсаванае ў камені, даганяла мяне.

— Хто ты, Адам? — стаяў у вушах громападобны бесперапынны голас — ці ветру свіст? — Хто ёсць Бог, калі светам кіруе Каханне? Хто ёсць Бог, Адам?

— Тваю маці! — вырваўся хрып з майго перакошанага, перасохлага рота. — Я-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а! — выдыхнуў на ізлёце, калі камень накрыў мяне, удрукаваўшы ў выбоіну, і застыў зверху пахавальным помнікам.

Белы крумкач з чорнымі крыламі плаўна апусціўся побач, дзелавіта пахадзіў вакол і раптам, ператварыўшыся ў чорны дым, растаў у паветры.

Дзікі крык, які вырваўся з маіх грудзей, мабыць, аглушыў усю лякарню, у якой я ляжаў у палаце рэанімацыі. Звесіўшы ногі з койкі, я спрабаваў сысці.

# У ДУХУ АСВЕТНІЦТВА

## Міхал Клеафас Агінскі дае парады па выхаванні моладзі

Здапамогай Пасольства Літвы ў Беларусі і Дабрачыннага фонду «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага» пабачыла свет эпісталярная кніга «Міхал Клеафас Агінскі. Бацькоўскія парады. Чатыры лісты аб выхаванні». Складальнікі — дырэктар Рэтаўскага музея гісторыі культуры Агінскіх Вітас Руткаўскас (аўтар прадмовы) і загадчык аддзела гісторыі Вялікага Княства Літоўскага Інстытута гісторыі Літвы Рамуне Шмігельскітэ-Стукене (аўтар уступнага артыкула і каментарыяў).




— Спадчына гэтага славутага чалавека мае значэнне не толькі для Літвы, Беларусі ды Польшчы, але і для ўсёй Еўропы, — адзначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Андрус Пулакас падчас прэзентацыі кнігі ў галерэі «Універсітэт культуры». — Адметна, што ў кнізе мы бачым Міхала Клеафаса Агінскага не проста выбітнай дзяржаўнай асобай, але і годным чалавекам, выдатным бацькам.

Дзяржаўнік, асветнік, грамадскі дзеяч, кампазітар — Міхал Клеафас Агінскі паўстае перад нашымі сучаснікамі ў розных амплуа. Эпісталярная ж спадчына скіроўвае ўвагу чытачоў на малавядомы бок Агінскага, дзе ён — узорны сем'янін, бацька шасцярых дзяцей. Нягледзячы на вялікую занятасць, Міхал Клеафас знаходзіў час на клопаты па выхаванні кожнага з іх. Нават за мяжой вёў з дзецьмі рэгулярнае ліставанне, дзе змястоўна і паслядоўна тлумачыў свае пажаданні наконт адукацыі ды жыццёвых каштоўнасцей: «Варта памятаць, што адукацыя неабходна для таго, каб выхаваць карыснага для грамадства чалавека, каб яго здольнасці і талент прынослі радасці жыцця. Нельга забываць, што толькі веданне самога сябе, выкананне сваіх абавязкаў і вывучэнне характару людзей, побач з якімі мы жывём на гэтым свеце, могуць уберагчы нас ад шматлікіх небяспек і паспрыяць нам у пошуках шчасця».

У кнігу трапілі чатыры лісты: «Спадару Гумберту» (1819 год, Залессе), «Урывак з ліста да жонкі, якая прасіла маёй парады аб польскіх кнігах для чытання нашым дзецям» (1822 год, Рэтаў), «Ліст да маёй дачкі Амеліі пра выхаванне дзяцей» (1822 год, Рэтаў), «Бацькоўскія парады сыну на жыццёвы шлях» (1822 год). Ліст да Гумберта — гувернёра, якога знайшла Марыя Нэры Агінская ў Пізе для Ірэнія Клеафаса, — дэманструе надзвычайную ўвагу Агінскага да адукацыі свайго сына і ў той жа час выказвае павагу да жонкі: Міхал Клеафас давярае яе меркаванню. Узаемная павага і давер бацькоў адно да аднаго — вось аснова, на якой гадуюцца дзеці ў гэтай сям'і. «Ліст да жонкі», напісаны ў адказ на просьбу Марыі Нэры параіць кнігі для чытання ў вольны час дзецям, — прыклад уважлівага стаўлення да ролі бацькі ў выхаваўчым працэсе. Дэрэчы, ліст будзе цікавы не толькі навукоўцам: польскія кнігі, абраныя Міхалам Клеафасам, не падыдуць для сучасных дзяцей, але дасканалы падыход, якім карыстаецца Агінскі пры адборы літаратуры, — добрая парада для сучасных бацькоў.

У «Лісце да Амеліі» найбольш выяўляецца публіцыстычны талент Міхала Клеафаса. Як і ўсе дзеячы таго часу, ён бачыць наканаванне жанчыны ў шлюбе і мацярынстве. Але ж пры тым даводзіць, што адукацыя жанчын не павінна саступаць адукацыі мужчын. Гэта бачна і ў літаратуры, якую ён прапануе дачцэ нароўні з яе братам, і ў стаўленні да Амеліі. Бацька наўпрост разважае з дзяўчынай наконт філасофскіх пытанняў, вучыць яе таму, што ёсць сапраўднае жыццё: «Экзальтаванае пачуццё шукае ва ўяўнай прасторы неіснуючыя ў прыродзе звышдасканалыя ідэалы, замест таго, каб радавацца жыццю, як гэта робіць чалавек з чыстым і бездакорным сэрцам».

Апошні ліст, змешчаны ў кнізе, — «Бацькоўскія парады сыну на жыццёвы шлях». Мяркуюць, што Агінскі-старэйшы напісаў яго, калі Ірэній Клеафас з'ехаў вучыцца ў Італію. Па ступені даверу гэты ліст падобны да размовы з Амеліяй. Бачна, што Міхал Клеафас любіць сына, але чакае ад яго годных паводзін. Гэтым абумоўлена форма ліста: бацька дакладна фармулюе свае заўвагі, выкладае парады па пранумараваным спісе.

Кніга выдадзеная адначасова на дзвюх мовах — беларускай і літоўскай. Тэксты лістоў перакладзеныя з французскай мовы, на якой ішло ліставанне тагачаснай шляхты. Выданне добра праілюстравана: сюды ўвайшлі партрэты членаў сям'і Агінскіх, замалёўкі, адсканаваныя старонкі лістоў Міхала Клеафаса і дакументаў з архіваў, а таксама сучасныя фотаздымкі, зробленыя ў значных для яго мясцінах. Цікавая асаблівасць кнігі — каментары, дзе складальнікі выдання асвятляюць далейшае жыццё дзяцей Агінскага. Клопат бацькі быў недарэмны: Амелія ды Ірэній Агінскія выраслі годнымі людзьмі. Лісты Міхала Клеафаса Агінскага да сваёй сям'і змяшчаюць разумныя бацькоўскія парады па выхаванні дзяцей, характэрныя для эпохі Асветніцтва. Яны актуальныя і па сёння!

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

Ірэній Клеафас Агінскі, сын Міхала Клеафаса Агінскага, атрымаў выдатную адукацыю, доўгі час працаваў у дыпламатычным кірунку, але росквіт яго здольнасцяў прыпаў на памешчыцкую дзейнасць: ён скасаваў прыгон і ўвёў сялянскае самакіраванне, шмат намаганняў прыклаў на распаўсюджванне асветы сярод сялян. Ірэній Агінскі — дыпламат, гаспадар, грамадскі дзеяч ды ўвогуле паважаны чалавек — лепшы доказ таго, што бацькоўскі запавет не застаўся незаўважаным. Вось частка правілаў, якія Міхал Клеафас прапанаваў юнаку ў лісце «Бацькоўскія парады сыну на жыццёвы шлях»:

• Ні на імгненне не забывай нічога з таго, чым ты абавязаны сваёй самай першай дабрадзейцы — тваёй Маці. Прызвычайся нічога не гаварыць, не рабіць, папярэдне не запытаўшыся ў сябе: «А мая маці ўхваліць ці не?»

• Будзь заўсёды раннім — уставай на золку, як толькі цябе пабудзяць, адразу падымайся і не давай часу для сну і ляноты, перамагай сябе. <…> Ты захаваеш сваё здароўе, калі будзеш захоўваць чысціню, а таксама і рэжым, выконваючы практыкаванні.

• Нарадзіўшыся не дзеля таго, каб абслугоўваць, а быць тым, каго абслугоўваюць, ты абавязаны гэтым выпадковасці, таму няма ніякіх падстаў тут ганарыцца; тым не менш гэта перавага, дадзеная табе. Табе трэба намагацца выхаванасцю і высакародствам пачуццяў надаць сабе сапраўдную значнасць і зразумець, што ўсё астатняе дасталося табе толькі па волі фартуны.

• Каб замацаваць тваю звычку самааналізу, няма нічога лепшага, чым завесці дзённік і запісваць усе свае ўчынкі, асабліва свае думкі. Гэтая звычка мае двайную выгаду: першая — звычка засяроджвацца на самім сабе, заглядаць у сябе, захаваць сябе, другая — сфарміраваць стыль, здольнасць пісаць, становячыся пісьменнікам.

• Хачу далучыць яшчэ адно маё пажаданне — вывучаць сучасныя замежныя мовы, што неабходна для тваёй кар'еры, якую ты сам сабе выбераш.

• Бываюць такія студэнты неспакойнага характару, якім падабаецца шукаць сварак са сваімі таварышамі. Гэта чума, якой трэба пазбягаць з найбольшай стараннасцю, і самы лепшы сродак пазбягаць гэтага (я казаў табе вышэй) — быць з усімі як мага болей ветлівым і не ўцягвацца ў справы, якія ты лічыш для сябе непрымальнымі.

• Сапраўдная мужнасць у тым, каб быць непахісным і нязменным у выкананні сваіх абавязкаў. Часцей той, хто баіцца славы баязліўца і свою ганарыстасць выдае за смеласць, — той і ёсць баязлівец і даносчык. Апошняе лічыцца ў грамадстве самым агідным.

# Знішчае Любоў!.. Нараджае Каханне!..

«мне надакучыў свет / усё было / *I nihil novi* / пад зыркім і круглым / праясняецца літара в: веды / — вывучайце энцыклапедыю — / цяпер ляжаць бы на жываце / цалуючы няроўныя пазногці / тваёй ліпкай і бруднай рукі», — болей як паўстагоддзя назад — у 1958-м — так пачала свой верш «Рэкламны прыём» польская паэтка Ганна Пасвятоўска. Прыводжу гэтыя радкі з яе беларускай кнігі, дзе змешчаны творы таленавітай аўтаркі, разбуральніцы традыцый, той кнігі, якая прыйшла да чытача ў 2016 годзе. Лічы, амаль праз шэсць дзесяцігоддзяў, каб толькі адно зараз сказаць: т а к у нас яшчэ т а д ы не пісалі, такая форматворчасць не была прынятая. Дык, можа быць, мы змарнавалі час, можа быць, нашы паэты істотна спазніліся, не спакусіўшыся на рэвалюцыйныя памкненні, застойна затрымаліся?..

Алесь Емяльянаў-Шыловіч, пранікліва ўглядзеўшыся ў паэтычную польскую даўніну сярэдзіны XX стагоддзя, адкрыў для беларускага чытача Галіну Пасвятоўску (1935 — 1967), якая, быццам яркая зорка, прамільгнула ў польскай паэзіі і з тых часін асвятляе сваім вынайдзеным Словам сумную рэчаіснасць. Большую частку жыцця Галіна Пасвятоўска правяла ў санаторыях. Прычына — хвароба сэрца. У лякарні пазнаёмілася і з мужам — Адольфам Рышардам Пасвятоўскім (таксама — хворым на сэрца). Праз два гады пасля шлюбу муж памёр. У 1958 годзе Пасвятоўска прайшла складаную аперацыю на сэрцы ў Злучаных Штатах Амерыкі. Вярнуўшыся ў Польшчу, закончыла філасофскі факультэт Ягелонскага ўніверсітэта. Памерла паэтэса ў 1967 годзе праз няўдалую аперацыю. Паспела пры жыцці выдаць тры паэтычныя кнігі: «Гімн ідалапаклонніцы» (1958), «Сённяшні дзень» (1963) і «Ода рукам» (1966). І хаця прайшло ўжо столькі часу, вершы Галіны Пасвятоўскай падаюцца надзіва сучаснымі, сугучнымі судакрананням чалавека і часу, чалавека і прасторы, сённяшнім сацыяльным і грамадскім пераабсталяванням.

І справа, зразумела, зусім не ў здольнасці польскай паэткі прадбачыць час з яго пераменамі. Ды і піша Галіна Пасвятоўска пра ўнутраныя змены, сардэчныя і душэўныя перажыванні.

Паэтка шукае галоўныя складнікі жыцця. Яе выпакутаванае сэрца падказвае, што рух, развіццё жыцця магчымыя толькі праз адзіна верны шлях — дарогай да Святла. «Я толькі святло…» Ды гэтае «толькі» ўбірае ў сябе ўсё: і любоў, і каханне, і спадзевы на паразуменне з усім Светам. Вельмі асабістае, сутнаснае з'яўляецца галоўным складнікам паэзіі аўтара кнігі «Ідалапаклонніца». Галіна Пасвятоўска бачыць жыццё праз прызму ўласных жаданняў, уласных памкненняў і перажыванняў. Паэтка неўпрыкмет узводзіць асабістае ў ранг самых галоўных каштоўнасцяў. І робіць гэта на мяжы з гранічнай шчырасцю. Надзея, вера, любоў, каханне становяцца катэгорыямі эстэтычнага падмурку, цэментуюць мастацкую сутнасць кнігі, ды і, пэўна, увогуле паэзіі зборніка «Ідалапаклонніцы». «*** я для цябе ласкавая» — з вершаў-шчыраванняў, дзе паэтка прызнаецца ў сімвалічным асэнсаванні кахання і, пэўна ж, гаворыць не толькі пра адносіны да блізкага чалавека…




*Пасвятоўская, Г. Ідалапаклонніца: вершы / Галіна Пасвятоўска; пер. А. Емяльянава-Шыловіча. — Мінск: Кнігазбор, 2016. — 88 с.*

«я для цябе ласкавая / як п'янкі водар красак / для пчолаў / я для цябе лагодная / як для стомленай птушкі / галінка зялёная / золата / кладуся на твае павекі / усмешкай / адганяю восаў куслівых — думкі / гэта ноч / мне цябе падарыла / вялікая ноч / што мае валасы раскідала па палатне / ты / ясны як месяц / азараеш маё / халоднае неба / я малюся табе...» Маленне наталяе сонечным святлом, узводзіць думкі ў ранг філасофскага асэнсавання рэчаіснасці, у якой існаваць, прысутнічаць без любві, кахання проста немагчыма. Інакай усё, што складае рух чалавека па крузе, мала што значыць.

*будзь побач са мною*
*бо толькі тады*
*мне не зябка*

*прастора дыхае холадам*

*калі я ўяўляю*
*якая яна невымерная*
*і якая я*

*тады мне патрэбна*
*сонца рук тваіх*
*два промні сусвету*

Шчасце адкрывае свет Галіна Пасвятоўска выяўляе праз ёй зразумелыя паэтычныя формы: ёй не патрэбныя знакі прыпынку, для яе вершаў важкасць маюць іншыя, толькі ёй зразумелыя рыфмы і рытмы. І гэта не пазбаўляе выпеставаных аўтаркай «Ідалапаклонніцы» вершы лічыць Паэзіяй самай што ні ёсць сапраўднай.

Часам дрыготкае, трапяткое судакрананне з любоўю, каханнем напаўняецца трывогай і сумам, якія ў паэткі ўсё ж атрымліваюцца, вымалёўваюцца таксама светлыя і трапяткія па сваёй чысціні. Калі перагарнуў апошнія старонкі «Ідалапаклонніцы», падумалася пра некаторыя блізкія матывы вершатворчасці Галіны Пасвятоўскі з паэзіяй Віславы Шымборскай, дарэчы, таксама ўжо даўно прачытанай і адкрытай беларускімі перакладчыкамі.

Чытаючы паэзію Галіны Павятоўскай, вылучаеш і паралелі з паэзіяй беларускіх аўтараў. Думаецца нават пра тое, ці не з яе пакалення, яе шэрагаў і наша Еўдакія Лось… Найперш такое параўнанне напрошваецца, зразумела, не ў асэнсаванні творчых манер, творчых падыходаў, а хутчэй — праз глыбіню шчырасці, непасрэднасць вершаванага радка. Зазірніце ў кнігу лірыкі Е. Лось «Сакавік», а яшчэ ў апошні зборнік «Лірыка ліпеня», успомніце яе ўпэненасцю напоўненыя радкі: «Клічуць дарогі свету, / Клічуць наперад мяне…» І такой самай верай перапоўнена слова Галіны Павятоўскі: «нам патрэбна шмат простых словаў / такіх як / хлеб / камяне / дабрыня / каб аслепшыя ў цемры / не згубілі / сваёй дарогі…»

Бясспрэчна, выбар Алеся Емяльянава-Шыловіча як перакладчыка ўдалы. І можна смела гаварыць, што лепшыя традыцыі ўвагі беларускіх перакладчыкаў да польскай паэзіі працягваюцца. Галіна Пасвятоўска — з тых творцаў, каго варта помніць. Яе рэльефны, дынамічны верш выклікае прыцягненне і вучыць разважаць, думаць пра вечныя ісціны жыцця.

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

# «Чорны замак Альшанскі» — па-грузінску



**Хто можа сумнявацца ў неабходнасці эканамічных сувязей паміж асобнымі народамі і дзяржавамі? Але не менш важныя і сувязі культурныя. Урэшце, нярэдка цесныя эканамічныя сувязі прадвызначаюцца менавіта культурнымі, суправаджаюцца імі, і наадварот: эканамічныя пратормаюць надзейныя сцяжыны для культурных.**

Не буду гадаць, што было першасным — эканоміка ці культура — у даволі цесных і прадказальных беларуска-грузінскіх узаемаадносінах, але, несумненна, культура знаходзіцца тут не на апошнім месцы. Варта прыгадаць не такую ўжо і далёкую гісторыю савецкага часу з гастролямі тэатральных, танцавальных і іншых грузінскіх калектываў у Беларусі і беларускіх — у Грузіі, сустрэчы беларускіх і грузінскіх пісьменнікаў падчас абменных дэкад літаратуры і мастацтва, у дамах творчасці (у Гаграх, на Піцундзе, у «Іслачы» і інш.), сумеснае навучанне маладых грузінскіх і беларускіх літаратараў (напрыклад, Ота Іаселіяні і Уладзіміра Караткевіча) на маскоўскіх літаратурных курсах, вучобу ў Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага і г. д.

На шчасце, не парываюцца гэтыя сувязі і сёння. І калі падчас нядаўняга візіту Прэзідэнта Грузіі Гіоргія Маргвелашвілі ў Мінск афіцыйна канстатаваўся рост беларуска-грузінскіх эканамічных сувязей, то, зусім верагодна, спрыянне гэтаму аказалі і нашы культурныя сувязі. Менавіта яны дапамагаюць азаніраваць тую грамадскую атмасферу, якой дыхаюць нашы народы, ствараць належны мікраклімат нашых узаемаадносін.

Якраз у гэтыя дні я атрымаў жаданы падарунак з Тбілісі. Колішні выхаванец філфака БДУ Вахтанг Салія перадаў пры аказіі дзве кніжкі, перакладзеныя ім на грузінскую мову непасрэдна з беларускай, — творы Уладзіміра Караткевіча: аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» і раман «Чорны замак Альшанскі». Калі аповесць вытрымала ўжо два выданні (2012, 2014), то раман пабачыў свет у сталіцы Грузіі ў самым канцы 2016 года і выклікаў, як паведаміў Вахтанг, вялікую чытацкую цікавасць.

Вахтанг Салія, а таксама Нана Гапрындашвілі займаліся ў маім семінары па гісторыі і тэорыі літаратурных узаемасувязей у 1977 — 1880 гг. Яны прыехалі ў БДУ па студэнцкім абмене спецыяльна для вывучэння беларускай мовы. Дарэчы, тады ж у адказ мы накіравалі ў Тбіліскі дзяржаўны ўніверсітэт для аваладання грузінскай культурай і мовай вядомага цяпер беларускага пісьменніка і выдаўца Уладзіміра Сіўчыкава. Ён, бадай, пакуль што адзіны з нашых літаратараў, хто грунтоўна ведае грузінскую мову і пры нагодзе перакладае з гэтай мовы на беларускую. Што да Вахтанга, то ў 1987 г. ён бліскуча абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Беларуска-грузінскія літаратурныя ўзаемаадносіны (1920 — 1980 гг.)» і цяпер, побач з асноўнай працай намесніка генеральнага дырэктара Грузінскага грамадскага тэлебачання, плённа перакладае Уладзіміра Караткевіча, з якім я калісьці яго пазнаёміў асабіста, творы якога ён любіць і чытае ў арыгінале. Што да Наны, то яна звязала свой лёс з навуковай і выкладчыцкай працай. І яе дысертацыі, кандыдацкая і доктарская, таксама звязаны непасрэдна з вывучэннем літаратурных узаемасувязей, мастацкім перакладам, у тым ліку грузінска-беларускім. Не пакінула яна займацца гэтымі праблемамі і цяпер, працуючы прафесарам Тбіліскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Вось такія асацыяцыі выклікаў у мяне атрыманы кніжны падарунак. А разам з асацыяцыямі — і ўпэўненасць у неабходнасці далейшага мацавання нашых культурных узаемін.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# Нацюрморт з характарам

## Мастацтва праз адзнаку «Мастацтва кнігі»




У мастацкай галерэі «Акадэмія» Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў 16 студзеня адбылася прэзентацыя цудоўнага альбома Аляксандра Зінкевіча «Беларускі нацюрморт. 1960 — 2010». Выданне было адзначана на 56-м Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі» ў намінацыі «АРТ-кніга» дыпломам першай ступені. Вітаючы аўтара, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў кандыдат мастацтвазнаўства Міхась Баразна падкрэсліў, што нацюрморт — гэта адзін з вянцоў беларускага мастацтва, і нагадаў, што гэты год для беларускай культуры асаблівы: 500 гадоў назад Францыск Скарына выдаў першую беларускую кнігу.

Аляксандр Зінкевіч бліскуча скончыў аддзяленне графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, магістратуру, аспірантуру, і, нягледзячы на малады ўзрост, яго добра ведаюць і як мастака, і як даследчыка мастацтва, і як дырэктара Палаца мастацтва. Усе яркія мастацкія праекты апошніх гадоў не абыходзяцца без ягонага непасрэднага ўдзелу. Але, як засведчыў Аляксандр Зінкевіч у сваім яркім уступным слове, кніга «Беларускі нацюрморт» для яго вельмі асабістая. Ён гадаваўся ў асяроддзі мастакоў і многіх аўтараў ведаў з малых гадоў, а выдадзены за савецкім часам альбом, дзе прадстаўлены беларускія нацюрморты, быў... ягоным аднагодкам. Сам час вымагаў сабраць і паказаць не толькі нам, беларусам, але і ўсяму свету, што ж было зроблена за апошнія гады ў жанры нацюрморта — ці не самым на сёння мабільным жанры.

Праца каласальная. Першапачатковая віртуальная калекцыя ілюстрацый уключала каля 2000 твораў. А часавыя рамкі стварэння адабраных у выніку нацюрмортаў шырэйшыя за тыя, што пазначаны на вокладцы. Такім чынам, ёсць магчымасць пазнаёміць чытачоў і з традыцыямі, і з сучаснымі тэндэнцыямі, адчуць, як змяняўся час, а разам з ім — мастацтва.

На прэзентацыі выступалі і мастакі, і навукоўцы: А. Зіменка, У. Савіч, В. Герасімаў, У. Зінкевіч ды іншыя. Але вельмі каштоўныя адкрыцці можна зрабіць, уважліва і з насалодай пагартаўшы старонкі новага выдання. Аўтар, хоць і кіраваўся ўласным густам, здолеў паказаць аб'ектыўны зрэз рэальнасці. Па-першае, выразна відаць, што беларускі нацюрморт — гэта нацюрморт з характарам. Нацюрморты Ядзвігі Раздзялоўскай спеўныя, у Гаўрылы Вашчанкі — пафіласофску разважлівыя, у Рыгора Сітніцы — па-паляшуцку заглыбленыя... У архетыпавых знаках нацюрмортаў Уладзіміра Клімушкі міжволі заўважаеш грамадзянскі падтэкст, а ў творах маладой мастачкі Алесі Скарабагатай у звычайных рэчах выяўляецца ледзь улоўнае наяве містычнае святло... Па-другое, упершыню побач з жывапісам, графікай як раўнапраўнае прадстаўлена фотамастацтва. І, разглядаючы нацюрморты Міхася Баразны, разумееш, што сёння фотамастак адкрывае для нас новы, нечаканы погляд на рэчы. Ёсць у альбоме нацюрморты, выкананыя з дапамогаю новых сучасных камп'ютарных тэхналогій. І, нарэшце, аўтар вельмі далікатна, інтэлігентна і прафесійна прэзентуе ў альбоме творчыя дынастыі і творчыя дуэты: Анатоль Бараноўскі, Алена Бараноўская і Віталь Герасімаў; Юлія Мацура і Піліп Басалыга, Валянціна Сідарава і Уладзімір Зінкевіч ды іншыя.

Кніга, на старонках якой зафіксаваныя лепшыя здабыткі беларускіх мастакоў у жанры нацюрморта за апошнія гады, кніга з арыгінальным макетам і грунтоўным уступным артыкулам на трох мовах, несумненна, дапаможа прэзентаваць сучаснае беларускае мастацтва як для нашых суайчыннікаў, вучняў, студэнтаў, так і за мяжою. Менавіта нацюрморт можа стаць ключом для разумення нашай ментальнасці, нашай душы і нашага часу.

**Галіна БАГДАНАВА**

*Нататкі чытача*

# ЯКІЯ ФАРБЫ Ў ШЧЫРАСЦІ?

Вершы Марыі Кобец, паэткі з Піншчыны, друкаваліся ў перакладах у Расіі, Польшчы, Чарнагорыі, Сербіі, Туркменістане. Напрыканцы мінулага года аўтарка паэтычнага зборніка «Кроплі», лаўрэатка Брэсцкай абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка прэзентавала чытачам новую кнігу паэзіі пад назвай «Палыновая квецень».

Чаму зборнік называецца так?.. Адказ аўтарка пакінула адкрытым, стварыўшы некаторую інтрыгу. Аднак, як тлумачыцца ў анатацыі, «Палыновая квецень» — гэта суквецце яркіх і нават крыху абвостраных пачуццяў, якія адкрывае чытачу Марыя Кобец. «Смарагдавая ранняя вясна», «Ружовы травень», «Вераснёвы золак» і «Белы ветразь завей»… Кожны з вершаў — прыклад лірыкі, прасякнутай шчымлівай, неабдымна-светлай тугой. Тонкае жаночае светаўспрыманне лірычнай гераіні дапаможа чытачу паглядзець на вечнае ў яго ўзнёсласці і прыземленасці ды зрабіць крок да разумення — найперш, самога сябе. Дый пошукі самой паэткі прызначэння ў жыцці лейтматывам праходзяць праз яе творчасць. Жаночая лірычная паэзія Марыі Кобец дооўжыць традыцыі класікаў.




Гама колераў у творчасці паэткі шырокая. Так, прыкладам, для патрыятычнай, пейзажнай і інтымнай тэматык больш характэрныя белы, пунсовы, смарагдавы, зялёны, жоўты, цагляны, залаты, чырвоны колеры. Шэрым і чорным афарбаваная амаль уся філасофская лірыка. Большасць вершаў насычаная разнастайнымі фарбамі, што дапамагаюць лірычнай гераіні шукаць сябе. А гераіня вельмі розная: моцная, хуткая, гожая і непадкупная — і адначасова сціплая, сарамлівая.

Мабыць, таму паэзія Марыі Кобец трывожыць, трымае ў палоне адчуванняў, раскрывае складанасць жаночай душы, яе шматграннасць, яе мноства аблічча.

На заключэнне хочацца прывесці цытату з прадмовы Алеся Карлюкевіча да кнігі «Палыновая квецень»: «Колеры яе паэзіі падобныя да тых красак і фарбаў, якімі расквечаны атуляючы паэтэсу край. Мне падаецца, што аўтар кнігі "Палыновая квецень" магла б быць і таленавітым мастаком, жывапісцам, бо настолькі вобразна і рэльефна, настолькі шматаблічна па колеравай гаме праз яе радкі паўстае Палессе. І складваецца ўражанне, што Марыя Кобец — вандроўніца не толькі па ваколіцах вёскі Валішча, роднай Піншчыны. Яна — вандроўніца па Палескаму свету. І прыносіць да чытача з гэтых вандровак святло і цемень, туманы і світанні, колеры вады і неба, прыносіць усю прастору, за якую яшчэ і нясе адказнасць як Паэт. Адказнасць за рэкі і лясы, за зямлю і неба, за Чалавека, якому верыць, на якога спадзяецца, ад якога чакае дабрыні і пяшчоты, разумення і спагады. Добрай дарогі новай кнізе Марыі Кобец "Палыновая квецень"! І ўважлівых чытачоў да яе нягучнай і — на шчасце — пазбаўленай рыторыкі, псеўдапафасу і пустых, не пацверджаных жыццём эмоцый, да яе шчырай і адкрытай паэзіі!»

**Наталля АЛЯХНОВІЧ**

# Усе колеры планеты Маленькага прынца

## Як іх успрымае мастачка Ірына Лобан



Нарэшце пачалася сапраўдная доўгачаканая вясна, калі складана сядзець на адным месцы, хочацца гуляць, адчуваць свежы водар паветра і пачаць рэалізоўваць мары. Менавіта ў такія цёплыя дні цяжка прайсці міма музея альбо галерэі, дзе пануе вясенні настрой. Так, у Мастацкай галерэі імя Міхаіла Савіцкага прадстаўлены выставачны праект «Гукі колеру» таленавітай мастачкі, дацэнта кафедры мастацтваў Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ Ірыны Лобан.

Ірына Лобан, дэманструючы ўласнае разуменне свету, не навязвае стэрэатыпаў, не даказвае, што менавіта яе погляд на існаванне сучаснага чалавека і ладу жыцця найбольш правільны. Яна запрашае гледача ў прастору, дзе з лёгкасцю разам з ёй можна разважаць на актуальныя тэмы, адлюстраваныя ў творчых кампазіцыях.

Доктар філасофскіх навук Ігар Духан адзначае, што акварэлі Ірыны Лобан — гэта мастацтва радасці. Нават у самых яе драматычных і трагічных акварэльных работах прасочваецца ззянне радасці — у прасветах бялізны аркуша чытаецца асаблівы жыццярадасны настрой.

— Выстаўка «Гукі колеру» — гэта збор маіх твораў, што прадугледжвае асабістую сустрэчу з гледачом, які спрабуе зразумець свет, дзе ўсё ўзаемазвязана, пераплецена, састасавана, — расказвае Ірына Лобан. — Навуковыя пошукі кажуць пра тое, што чалавечы мозг успрымае рэальнасць і фантазію цалкам аднолькава — лагічна або інтуітыўна, але ў маёй творчасці гэтыя дзве галіны свядомасці пераплятаюцца пастаянна. Я, быццам не заўважаючы межаў, жыву на дзвюх планетах, адбіраю для творчасці толькі тое, чаго не хапае мне ў рэальнасці, і наадварот. Што яшчэ мяне хвалюе? Колер і святло. Вядома, я выкарыстоўваю іх не зусім традыцыйна. І колер, і святло існуюць у маіх работах у падначаленні двум сусветам — рэальнасці і фантазіі. Таму цень можа быць зусім не там, дзе яму належыць быць, а святло — сыходзіць як ад крыніцы, так і ад самога прадмета, які свеціцца знутры, і ўсе выдатныя магчымасці акварэлі дапамагаюць у гэтым. Надаю вялікую ўвагу кампазіцыі аб'екта, а не яго сапраўднаму маштабу ў рэальным свеце.



*«Тэрыторыя нябачнага», 2011 г.*

Колеравыя рашэнні мастачкі сапраўды ўражваюць. Яна стварае не проста яркія творы, а хутчэй грае на кантрасце, быццам шукае новыя адценні. Вынік абсалютна нечаканы: побач са спакойнымі, гарманічнымі тонамі можа пралягаць яркая хваля, якая скіроўвае ўвагу на сябе. Тут выяўлена метафара жыцця: немагчыма заўсёды захоўваць спакой у душы, літаральна адна маленькая дробязь — і эмоцыі пачынаюць пераважаць.

Многія творы мастачкі складаюцца са шматлікіх маленькіх карцін. Іх мастачка стварае па прынцыпе калажу. Прыдумляе ідэю і пачынае выбудоўваць цэлую гісторыю. Гэта своеасаблівая гульня, дзе ёсць прастора для разваг і дыялогу. Напрыклад, праз карціну «Рыгалета» мастачка імкнецца перадаць нам не сэнс оперы альбо яе мастацкага дзеяння, а знаёміць практычна з усімі героямі сюжэта.

— У адным мастацкім творы я магу сумяшчаць некалькі карцін: атрымліваецца своеасаблівы калажны эфект, — адзначае аўтар. — Напрыклад, серыя «Сіндбад-мараход» складаецца са ста работ. Гэта здаецца, што ўсяго чатыры карціны, насамрэч іх значна больш, яны прыдумляліся ў розныя часы. Такім чынам, я ствараю шматсэнсоўныя творы. Зараз мне дзіўна, што я выступаю ў ролі акварэліста, бо пачынала творчы шлях з кніжнай графікі. Практычна не звярталася да станковай акварэлі, бывала, толькі летам, калі натхняла сонейка, я хапалася за пэндзаль.

Творы Ірыны Лобан — своеасаблівае падарожжа па казках, спектаклях, краінах. З зялёнай Беларусі ты нечакана апынаешся ў сонечнай Грэцыі, пасля трапляеш у свет Антуана дэ Сент-Экзюперы, дзе Маленькі прынц больш не чорна-белы: мастачка зрабіла акцэнт не на персанажы, а на эмоцыі. Ёй падабаецца адыходзіць ад двухколеравага ўяўлення свету. Тут нават асабісты прынцып: няма толькі чорнага альбо белага, ёсць блакітны, чырвоны, зялёны. Нават шахматную серыю твораў яна адлюстравала без стэрэатыпаў.

— Мне вельмі падабаецца мая шахматная серыя. У ёй я пазбягаю штампаў, — прызнаецца Ірына Лобан. — Калісьці Экзюперы намаляваў Маленькага прынца чорна-белым, а я ўявіла яго каляровым, нават разгулялася з колерам. Пасля па такім жа прынцыпе вырашыла папрацаваць з шахматамі. Чаму б не? Бо шахматы, таксама як і мы, жывуць у каляровым свеце, яны не ізаляваныя ад грамадства. Канечне, чорнае і белае я захавала, але не абышлося без кантрастаў: у сярэдзіну твора дадала фіялетавых адценняў, а самі шахматы — з устаўкамі золата, бо там ёсць каралі і каралевы. У маёй калекцыі мне вельмі падабаюцца творы, прысвечаныя порам года. Захацелася іх зрабіць больш эпічнымі — без пачатку і канца, бо вясна, зіма, лета і восень непастаянныя. Аднак кожная пара года мае свой каларыт, таму гэтая серыя работ больш абстрактная па пластыцы і вобразнасці, чым шахматная.

У сямідзесяці прадстаўленых творах экспазіцыі мастачка спрабавала захаваць асабістую гісторыю. І зусім няважна, наколькі яна рэальна перажытая альбо выдуманая. У любым выпадку, ствараючы карціны, аўтар арыентавалася на асабістае ўспрыманне герояў альбо сітуацый. У творах Ірыны Лобан прасочваюцца асаблівая культура, інтэлектуальнасць і інтэлігентнасць. Гэтыя складнікі, дарэчы, і сфарміравалі індывідуальны аўтарскі почырк: адзін раз пабываўшы на выстаўцы гэтага аўтара, пасля зможаце пазнаць яе работу сярод тысячы іншых.

Ірына Лобан не толькі таленавітая мастачка, але і настаўнік. Яна вучыць студэнтаў перш за ўсё думаць, адчуваць сэрцам і толькі пасля пераносіць эмоцыі на паперу. Мастачка кажа, што чалавек павінны пісаць карціны, кнігі, песні толькі пра тое, што насамрэч ведае, інакш не атрымаецца быць зразумелым, ацэненым.

**Вікторыя АСКЕРА**

# У ЖЫВОЙ АТМАСФЕРЫ

## Як маладыя аўтары адчуваюць прыроду?

Калі падчас прагляду культурнай афішы Мінска мы заўважаем, што ў пэўным месцы будзе ладзіцца мастацкая выстаўка студэнцкіх работ, то хутчэй пераключаемся на іншае, больш маштабнае мерапрыемства. Аднак дарэмна. Як паказвае практыка, моладзь імкнецца быць абсалютна непадобнай да старэйшага пакалення, а іх крэатыўныя ідэі ўсё часцей знаходзяць дастаткова вялікую аўдыторыю. Для маладых мастакоў арганізоўваюць спецыяльныя праекты, пленэры. Напрыканцы сакавіка ў галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрылася выстаўка пленэрных работ навучэнцаў Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя Аляксея Глебава «Пленэр-2016».

Той самы выпадак, калі разглядаеш выстаўку і разумееш: тут няма ніводнага знаёмага аўтарскага почырку. За кошт гэтага фактару пачынаеш разглядаць экспазіцыю праз прызму нават не мастацкага досведу, а глыбіні твораў. На выстаўцы прадстаўлены творы студэнтаў, якія любяць і шануюць радзіму, праслаўляюць яе прыгажосць праз мастацкія кампазіцыі.

Штогод студэнты-мастакі выязджаюць на пленэры ў розныя жывапісныя куткі Беларусі і іншых краін. Летась практыка ў маладых творцаў праходзіла ў гістарычна значных мясцінах нашай рэспублікі, такіх як Нясвіж, Полацк, Ружаны, Брэст, Віцебск, краявіды якіх і адлюстраваныя на палотнах. Мноства складаных твораў было напісана і падчас удзелу студэнтаў у міжнародных пленэрах у Татрах (Славакія), Санкт-Пецярбургу, Варонежы, Астрахані. Сёння гэтыя творы аб'яднаныя ў адну вялікую калекцыю. Але найбольшую частку складаюць усё ж беларускія пейзажы.

Аўтары, трапляючы ў жывую атмасферу, вучацца не парушаць яе ў творах, фіксуюць самыя непрыкметныя дробязі, без якіх губляецца эстэтыка. Дарэчы, мастак — тонкі псіхолаг, разумее, што чалавек не заўсёды ўспрымае прыгажосць вакол сябе, таму на палатне падкрэслівае яе колерам, выразнымі лініямі.

Маладыя мастакі існуюць у дынамічным тэмпе, таму іх творы, нават лірычныя, усё роўна напоўненыя дзёрзкімі, эмацыйнымі адценнямі. Прадстаўленыя кампазіцыі дэманструюць яркі ўнутраны свет кожнага творцы, іх жаданне бачыць свет не шэрым, звычайным, а наадварот, упрыгожыць яркімі адценнямі. Як адзначаюць самі студэнты, пленэры даюць унікальную магчымасць не толькі раскрыць новыя грані асабістых здольнасцяў, павысіць прафесіяналізм і творчую самастойнасць, але і дакрануцца да прыгажосці роднай зямлі, пра якую можна забыцца ў мітусні будзённасці.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Марыя Ласьмакова «Пейзаж. Віцебск, дзве царквы. Дзвіна».*

# Вясна. Моладзь. Магілёў

**Традыцыйны моладзевы тэатральны фестываль «М@рт-кантакт» у дванаццаты раз прайшоў у горадзе на Дняпры. Калі б гэтага фестывалю не было, яго трэба было б выдумаць. Дзе яшчэ за тыдзень можна паглядзець і паспрабаваць зразумець пакаленне тых, каму заўтра будзе належаць свет? Якая ў нас моладзь, якія яе густы, што яна ўмее, што ненавідзіць? Яны, маладыя, маюць зносіны на сцэне і ў зале, акцёры з акцёрамі, гледачы з гледачамі і паміж сабой — сцэна і зала.**

## БЕЛАРУСКІ СЛЕД

Тэатр абрынуў на нас 22 спектаклі з 10 краін. Статыстыка такая: 6 спектакляў з Беларусі, 4 — з Санкт-Пецярбурга, 3 — з Масквы. Па адным з Аўстрыі, Арменіі, Грузіі, Казахстана, Літвы, Польшчы, Украіны і расійскага Яраслаўля. Здаецца, што сарыентавацца ў свеце тэатральных формаў і ідэй немагчыма. У карнавальным вар'яцтве часам цяжка нешта разгледзець. Змяніўся маштаб таго, што можна лічыць тэатральным падзеяй. Усе чакаюць тэатральных лідараў — Яўгена Марчэла, Льва Эрэнбурга, Саўлюса Варнаса, у якіх магутная акцёрская каманда, выверaная сцэнаграфія і музычнае афармленне, выключная акцёрская пластыка і своеасаблівая тэатральная мова. Але раптам на маленечкай сцэне Магілёўскага тэатра лялек адзін акцёр грае спектакль «Сіняя-сіняя», і разумееш: вось падзея. Яе стварыў малады рэжысёр, імя якога ўжо прагрымела: Ігар Казакоў разам са сцэнографам Таццянай Нерсісян і акцёрам Мікалаем Сцешыцам.

Можа, і здадуцца пафаснымі гэтыя словы, але веру і мяркую, што спектакль можа павярнуць тваё жыццё. Таксама павярнуў звыклыя ўяўленні разлічаны на траіх выканаўцаў «Саша, вынесі смецце» Маладзёжнага тэатра з Мінска. Здзівілі і запалі ў душу літоўскія хлопцы, якія гралі «Братоў Карамазавых» Дастаеўскага ў музеі этнаграфіі. Усё ж такі веру, што мастацтва не проста забаўляе. Яно дапамагае ўсабе разабрацца. Так, памяняўся ландшафт жыцця. Вялікія рэжысёры XX стагоддзя сышлі разам са сваёй эпохай. У стагоддзе XXI прыйшло іншае пакаленне. Многія з іх хочуць адпавядаць агульнапрынятым стандартам і перш за ўсё ўзорам масавай культуры. Імкнуцца адстойваць свабоду ад літаратурнага тэксту. Свабодна звяртацца не толькі да першакрыніцы, але і настойліва ўкараняць у яе ўласныя імгненныя думкі.

Гледачу, ды і самім людзям тэатра, цяжка разбірацца ў праваце карціны жыцця намаляванай сцэнай. То яна салодка-рамантычная, то непрыгожая і агрэсіўная, то раздробненая на шматкі атракцыёнаў. Усё ж такі мастацтва — гэта адмысловая дзейнасць, якая ў першую чаргу займаецца душой. Калі падчас спектакля нічога з душой не адбываецца, значыць, атрымалася пусцяковіна. Паглядзелі і забыліся. Але ў лепшых узорах, вядома ж, адбываецца ачышчэнне чалавечай душы, нават калі падзеі п'есы поўныя безвыходнасці. Гэта і адбылося ў Магілёўскім тэатры лялек, дзе Ігар Казакоў глыбока і сучасна прачытаў аповед Уладзіміра Караткевіча «Сіняя-сіняя». Спектакль па матывах аповеду стаў неверагодна надзённым, пазанацыянальным і нацыянальным адначасова. Ён адсылае і да гісторыі Беларусі, і да твораў Васіля Быкава («Альпійская балада»), і да выдатнага расійскага лялечніка Руслана Кудашова. І да сённяшніх падзей у Сірыі. Вучань Аляксея Ляляўскага, Ігар Казакоў, стварае вядомы і нязвыклы вобразны свет спектакля колерам, святлом, гукамі, рухам, сыпкім пяском і падсветленымі малюнкамі на пяску, праз экран, відэапраекцыі. Маральныя акцэнты расстаўлены даходліва для дзяцей і для дарослых. Размова ідзе як у старой савецкай песні «Ты і ўбогая, ты і багатая, ты і магутная, ты і бяссільная». Гэта можна сказаць пра лёс Радзімы і пра лёс аднаго чалавека адначасова.

Адзін паважаны крытык аднойчы напісаў, што «падвал ніколі не стане мансардай». Ён разважаў пра цяжкасці з памяшканнем для тэатра. Колькі таленавітых студый пачыналі сваё існаванне з падвалаў і бадзяліся там гадамі. Але скажу іншае: калі падвал асацыюецца з падземеллем, то мансарда можа стаць узлётам да неба. Так і адбываецца з многімі моладзевымі калектывамі, альтэрнатыўнымі рэпертуарнаму тэатру. Куды б іх ні выціснула рэчаіснасць, яны доўгі час застаюцца жывым тэатрам, адкрытым для любых эксперыментаў і амбіцыйных праектаў.

## ЛІТОЎСКІ СЛЕД

На фестывалях «М@рт-кантакт» заўсёды бывае цікава прадстаўлена наша суседка Літва. Літоўская тэатральная рэжысура — феномен сусветнага ўзроўню. Добрыя літоўскія рэжысёры паступова захопліваюць маскоўскія тэатры. Асабліва ўражвае работа Рымаса Тумінаса, кіраўніка тэатра імя Я. Вахтангава. Майстар рыхтуе змену. Ён стварыў рэжысёрскую лабараторыю «Вучні Тумінаса». З яе выйшлі чатыры адораныя маладыя рэжысёры. Дзве іх работы былі паказаныя ў Мінску.

Вучні навучыліся ў свайго майстра выяўляць не сябе, а толькі аўтара п'есы, не займацца рэжысурай дзеля рэжысуры, а ўсё аддаць акцёру, вывучылі канкрэтныя акцёрскія тэхнікі, якімі гэта дасягаецца.

Іх спектаклі «Кароль памірае» і «За зачыненымі дзвярыма» пускаюць п'есы Эжэна Іанэска і Жан-Поля Сартра ў свет абсурдызму на новым этапе, на новым вітку спіралі. Сёння многае ў нашым жыцці выглядае абсурдным, і акцёрам неабходна вучыцца асвойваць гэты адыходны ад рэальнасці матэрыял. Ці паўстануць у будучыні чатыры новыя тэатры — пытанне пакуль без адказу. Хацелася б, каб зладжаны акцёрскі ансамбль не распаўся.



*Сцэна са спектакля «Крэйцарава саната».*

А вось хлопцам з Вільнюса пашанцавала больш. Яны ўжо сталі тэатрам. Яго назва *«Gheaomai»* перакладаецца з грэчаскага як «глядзець». Яго стварыла педагог і рэжысёр Сільва Крывіцкіене. 13 акцёраў Літоўскай акадэміі музыкі і тэатра прывыклі граць у любых умовах, у любых маленькіх прасторах, у тым ліку ў турмах, кляштарах, храмах.

Сільва Крывіцкіене выхавала сваіх вучняў на рускай класіцы — Ф. Дастаеўскім, А. Чэхаве, М. Горкім. У Магілёве прыгожыя разумныя стыльныя маладыя людзі гралі свой спектакль у невялікім пакоі музея этнаграфіі на літоўскай мове. На рускай спявалі праваслаўныя харалы і чыталі малітвы. Хлопцы пастаянна жывуць у стане эксперымента і пошуку. Дастаеўскага пачалі вывучаць з другога курса. Па сутнасці, сталі працаваць над матэрыялам яшчэ дзецьмі, а цяпер робяць усё асэнсавана і дакладна. Сільва заўсёды мяняе нешта ў спектаклі ў залежнасці ад таго, якая сцэнічная пляцоўка трапілася. Педагог глядзіць увесь спектакль і прыкмячае, калі з'яўляюцца штампы. Яна для маладых акцёраў клапатлівая мама. У спектаклі лёгкая і выразная цялесная пластыка. Вось у пакоі з'яўляюцца апранутыя ў чорнае манашкі на чале са старцам Зосімам. Яны рассаджваюцца сярод гледачоў, і, хоць увесь філасофска-рэлігійны трактат «Браты Карамазавы» ідзе на літоўскай мове без перакладу, усё, што адбываецца, становіцца зразумелым. Манашкі здымаюць хусткі і аказваюцца прыгожымі, непадобнымі адна да адной гераінямі рамана. Магілёўскія гледачы доўга парушалі цішыню музея працяглымі апладысментамі.

Тры прыезджыя спектаклі — у літоўскай рэжысуры. Чацвёртым была «Крэйцарава саната» Магілёўскага драматычнага тэатра. У рэжысёра Саўлюса Варнаса свой асаблівы стыль. Немалады чалавек вывучаў тэатр у еўрапейскіх краінах і ў студыі Ю. Мільцініса ў Паняжысе. Працаваў у тэатрах Літвы, а з 2014 года — у Магілёве. Паветра «Крэйцаравай санаты», яго рытмы, інтанацыі і сугучча звязаны з атмасферай містыкі. Літаратурныя вобразы Льва Талстога з яго зусім не сцэнічнай аповесці ажылі ў метафарычных і эзатэрычных шуканнях. Яны не тутэйшыя. Спектакль кантактуе з гледачом на рацыянальнай, добра прадуманай мове знакаў. У ім шмат прадметаў і дэталяў, але няма побыту. Тут ёсць новая для беларускага тэатра эстэтычная пластычная паліфанія, непрадугледжаная літаратурным арыгіналам. Пазіцыя рэжысёра пэўная. Ён лічыць, што мастацтва — гэта судотык з метафізікай і тэатр — не служка тэксту. Калі прытрымлівацца тэксту, можна было б убачыць нудны сюжэт пра тое, як звычайны муж, прыраўнаваўшы, забіў сваю нявінную жонку. Атрымалася зусім іншае — вельмі прыгожае, неардынарнае, яркае відовішча. На жаль, не ўсе гледачы, нават крытыкі считываюць гісторыю вечных узаемаадносін мужчыны і жанчыны, дзе ёсць каханне або яго няма. Герой таленавітага маладога акцёра Івана Труса (лаўрэата Нацыянальнай тэатральнай прэміі 2016 г.) жорсткі, падазроны, але выклікае спачуванне і спагаду. Ён заблытаўся. Яму неабходная дапамога.

## РУСКІ СЛЕД

Ярчэй за ўсё прыроду буйнага і страснага рускага характару выкрывае «Невялікі драматычны тэатр» з Санкт-Пецярбурга ў «Братах Карамазавых». Вельмі модны і спрэчны рэжысёр Леў Эрэнбург. У яго свая эстэтыка, насычаная цялесна-пачуццёвымі фізіялагічнымі падрабязнасцямі і вольнымі адносінамі з класікамі. Глядзець яго спектаклі заўсёды цікава, хоць не заўсёды можна пагадзіцца з яго трактоўкай. Рэжысёр існуе ў пастаянным дыялогу з аўтарамі літаратурнага тэксту і з гледачамі. Збольшага таму, што яго спектаклі насычаны апакаліптычнымі настроямі, хтосьці іх падзяляе, хтосьці — не.

Такім жа супярэчлівым атрымаўся «Месяц у вёсцы» з Яраслаўля. Граць сёння тэксты Івана Тургенева амаль ніхто не ўмее. Застаўся ў далёкім мінулым выдатны тонкі праўдзіва рускі спектакль Анатоля Эфроса. Гледачы ў большасці сваёй гэтага аўтара не чыталі. І яны атрымалі цалкам сучасную камедыю, што адыграў моцны акцёрскі склад, які ведае, як прывесці ў захапленне сённяшняга гледача. Акцёрская энергія проста распірае акцёраў «Месяца ў вёсцы». Гэта людзі тусовак і нядзейсненых магчымасцяў, што не ведаюць чым заняцца і таму без канца акунаюцца ў любоўныя раманы. Градус смеху такі высокі, што ёсць небяспека перабору з імправізацыяй і сыходу ў эстраду, хоць выразная рэжысёрская канцэпцыя пра слабых мужчын і моцных жанчын знаходзіць разуменне глядзельнай залы.

Спектаклем мінулага часу я назвала б работу піцерскага ТЮГа імя А. Бранцава «Дарагая Алена Сяргееўна». У ім няма сучаснай гісторыі і сучаснай актуальнасці, хоць даўняя п'еса Людмілы Разумоўскай магла б прагучаць сёння. Маскоўскі моладзевы тэатр назваў сваю работу «Як я стаў ідыётам» падарожжам у глупства. Нічога дурнога там не выяўляецца, нават наадварот: можна казаць пра сур'ёзную заяўку на спектакль пра тое, як сёння абмаскультывавваюць моладзь. У вясёлай гульнявой стыхіі, на жаль, няма адбору і пачуцця меры. На выхаваную відэакліпамі публіку абрынаецца агрэсія мастацкіх сродкаў сучаснага тэатра, і разабрацца ў гэтым далёка не проста. А вось піцерскі тэатр «Субота» вельмі ўважлівы да сваіх гледачоў. Ён зладзіў дасціпную і драматычную жывую сустрэчу з Пушкіным як сімвалам рускай духоўнасці. Іх спектакль «Выратаваць камер-юнкера Пушкіна» вельмі просты, немудрагелісты, распавядае пра тое, як наш сучаснік па прозвішчы Патунін спачатку ненавідзіць паэта, любоў да якога прымітыўна ўдзёўбвалі ў школе. Потым па сваёй волі натхняецца яго паэзіяй. Ім авалодвае ідэя: ці можна было выратаваць паэта ад кулі Дантэса. У рэшце рэшт, былыя сябры з падваротні застрэлілі героя, апанаванага Пушкіным, якраз каля месца гібелі паэта — каля Чорнай рэчкі. Прычына простая: пакваліліся на яго — кватэру. Ва ўсіх паказаных на фестывалі спектаклях з Расіі існавала і гучала даволі яркая руская ідэя: і ў Пушкіна, і ў Дастаеўскага, і ў Тургенева. Такая размова з маладым гледачом вельмі карысная.

Няма магчымасці распавесці пра ўсе цікавыя і прахадныя спектаклі фестывалю. Зрэшты, прахадных не было. Гэта былі хутчэй спектаклі для касы, дзе шмат музыкі, спеваў, пластыкі, прыгожых артыстаў. Дванаццаты «М@рт-кантакт» завяршыўся, але ўжо цяпер пачынаецца падрыхтоўка да трынаццатай тэатральнай вясны ў Магілёве.

**Таццяна АРЛОВА**

# Праекцыя душы

## Частка III: казачныя ўрокі анімацыі

**Асобнае месца ў панараме вобразна-сэнсавых тэндэнцый сучаснай анімацыі належыць філасофска-рэлігійнай тэматыцы, якая стала своеасаблівым знакам духоўнага рэнесансу айчыннай культуры. Шырокую філасофска-гуманістычную трактоўку рэлігійная тэматыка знайшла ў творчасці Ірыны Кадзюковай, прыхільніцы пэўнага жанрава-тэматычнага напрамку ў беларускай анімацыі і стваральніцы сваёй культурнай нішы.**

### СВЯТОЧНЫЯ СТУЖКІ

Сапраўднай з'явай айчыннай анімацыі стала стварэнне цыкла калядных казак, своеасаблівага серыяла з 7 фільмаў пад агульнай назвай «Калядныя апавяданні» (1994 — 2004). Цыкл складаецца з гісторый, якія адпавядаюць сэнсу зімовых хрысціянскіх святаў. Тут ёсць фільмы для дзяцей і дарослых, апавяданні пра нараджэнне Хрыста, цудоўныя гісторыі з мінулага і сучасны калядны аповед.

У кожнага з фільмаў свае запамінальныя вобразы. Стужку «Калядныя апавяданні» (1994) складаюць дзве навелы пра Раство — «Каляднае», што заснавана на вершы Сашы Чорнага, і «Завея» па рускай легендзе пра нараджэнне Ісуса Хрыста. Нараджаецца немаўля Ісус, і на яго прыходзяць паглядзець жывёлы — бычок, кот і сабака. Гучанне далікатных і простых вершаў, ціхае бразгатанне звона ствараюць атмасферу цуду і адмысловы казачны свет, зразумелы і блізкі дзіцяці. Галоўнае ўражанне ад стужкі «Дзяўчынка з запалкамі» (1996, па казцы Г. Х. Андэрсэна) — «зімовы» шэра-блакітны каларыт і выраз пакутаў на твары маленькай дзяўчынкі, якая памірае ад холаду напярэдадні Раства. Менавіта колер стужкі змякчае трагедыйнае гучанне сюжэта. Бадай, мала хто з мастакоў так пранізліва і далікатна адлюстраваў на экране вобраз смерці.

Стужка «Прытча пра Раство» (2000) сваім зместам адсылае да апакрыфічнай легенды Уласа Дарашэвіча на тэму сюжэта з Бібліі, як Гасподзь выбіраў зямных бацькоў свайму сыну Хрысту. Выдатны мастак А. Верашчагін стварыў арыгінальныя і відовішчныя біблейскія вобразы. Моцнае ўражанне выклікае фрэскавы стыль, які нагадвае грузінскія насценныя роспісы. Твары персанажаў з агромністымі чорнымі вачыма быццам намаляваны дзіцячай рукой. Каларыт ствараюць яскравыя колеры. Фарбы зіхацяць золатам і чырванню, лініі буйныя і спрошчаныя. Мастак абраў характэрныя малюнкі і колеры для асобных персанажаў. Так, фігуры цара і палаца стылізаваныя пад егіпецкія роспісы. Аблічча багача і яго асяроддзя — у духу індыйскіх арнаментаў. Постаці бедняка і яго жонкі адсылаюць да вобразаў іудзейскай культуры. Паступова каларыт страчвае насычанасць, і абліччы Марыі і анёлаў вакол яе паўстаюць у светлай гаме, у блакітных тонах. Прафесіяналы ў галіне кіно адзначалі, што такі стыль — унікальная з'ява ў анімацыі Расіі і краін СНД.

Знаёмы ўсім з дзяцінства сюжэт рускай казкі пра сястрыцу Алёнушку і брата Іванушку арыгінальна інтэрпрэтаваны ў стужцы «Сястра і брат. Казка на Раство» (2002). Адчуваецца стылістыка гарадскога раманса: гучыць шмат рускіх песень і рамансаў. Галоўныя героі прапісаныя ўмоўна, некалькімі штрыхамі. Алёнушка нагадвае звычайную дзяўчынку, у яе сумныя вочы і доўгія косы. Бравы капітан на караблі ўздымае сцяг з надпісам: «Ідзі за мяне замуж», а ведзьма вылучаецца фіялетавым тварам і чырвонымі валасамі. Агульная гумарыстычная інтанацыя ідзе ад аўтарскай свабоды ў трактоўцы знакамітай гісторыі. Нездарма стужка на Адкрытым расійскім фестывалі анімацыйнага кіно атрымала спецыяльны прыз журы «За вытанчаны прымітывізм у інтэрпрэтацыі рускай казкі».

### ЛЕГЕНДЫ — НА ЭКРАНАХ

Стужка «Легенда пра лэдзі Гадзіву» (2004) распавядае гісторыю пра жонку лорда Леафрыка, якая па загадзе мужа праехала па горадзе аголенай, каб выратаваць гараджан ад залішніх падаткаў. Рэжысёр абапіралася на аповесць англійскага пісьменніка Л. Тэнісана ў перакладзе І. Буніна. Мастак Д. Сурыновіч дакладна аднавіў побыт эпохі і гістарычныя касцюмы. На экране паўстаў старажытны горад з брукам, гатычнай архітэктурай, вузкімі вулачкамі. Але, напэўна, больш за ўсё запомніліся лірычныя вобразы, на стварэнне якіх Кадзюкова — вялікі майстар. Залатавалосая прыгажуня Гадзіва глядзіць вачамі маленькага дзіцяці, даверліва-прыязнымі і разам з тым засмучанымі. Празрыстыя фігуры двух анёлаў з'яўляюцца як арганічная частка прыгожай і павучальнай гісторыі пра нявінную істоту, своеасаблівую Еву, якая яшчэ не пазнала грэхападзення.

Тэму духоўнасці і прыгажосці І. Кадзюкова працягнула і па-за межамі каляднага цыкла. У стужцы «Залатыя падковы» (2006) яна прапанавала сваю інтэрпрэтацыю малавядомых казак Г.-Х. Андэрсэна. У славутага пісьменніка няма твора пад такой назвай, але ёсць казка «Гнаявы жук». У фільме гэты персанаж паўстае сучасным тыпажом, самаўпэненым і ганарыстым: ён патрабуе залатыя падковы, якімі быў уганараваны конь імператара. Казачны свет рэжысёра напоўнены мілымі і ўтульнымі падрабязнасцямі. У маленькай вясковай хатцы жывуць стары імбрычак, пыльная бутэлька, прыгожая вясельная сукенка, а пад вокнамі — ружовы куст. У кожнай рэчы свой характар, сваё мінулае. Бутэлька паўстае сапраўднай жанчынай і ўспамінае пра вясёлы пікнік, дзе яе адкаркавалі. У імбрычка свая актыўная маладосць. Пацешныя рэчы быццам ажыўленыя і ачалавечаныя фантазіяй аўтара.

У стужцы «Старадаўняя аповесць аб жыцці, смерці, каханні і іншых цудах» (2008) гаворка ідзе пра праваслаўных святых Пятра і Феўронію. Рэжысёр зрабіла паломніцтва ў Мурам, дзе пазнаёмілася са старажытнымі ліцавымі рукапісамі (тут спатрэбілася першая прафесія філолага і веданне стараславянскай мовы). Паступова акрэслілася галоўная творчая пазіцыя — паказаць герояў не абстрактнымі святымі, а блізкімі, зразумелымі, «цёплымі» людзьмі. Сапраўды, гаворка ідзе пра зусім маладых герояў, пра рускіх Рамэа і Джульету. Князю было каля 16 гадоў, а Феўроніі — каля 13. Аўтары адкінулі стыль лубка, ці «ажыўлення» іканапісных малюнкаў. Спыніліся на беларускіх маляванках, галоўным чынам на творах Алены Кіш, якая ткала ўнікальныя дываны. У выніку атрымаўся своеасаблівы погляд на рускую гісторыю.



*Кадр з фільма «Казка пра Сінюю світку» (рэж. А. Турава).*

Сімвалічная мова стужак Ірыны Кадзюковай стала адмысловым сродкам перадачы змястоўнай глыбіні хрысціянскай тэмы. Гэтым сродкам выступае тэхніка перакладкі. Кадзюкова застаецца прыхільнікам ручной працы пад камерай і верыць у яе невычарпальныя выразныя магчымасці. Плоская марыянетка — папяровая ці кардонная — мае своеасаблівую ўмоўнасць, якая вядзе да павышанай сэнсава-сімвалічнай ролі жэста, мімікі, дэталі. У цяперашні час такі від тэхнікі выкарыстоўваецца даволі рэдка, хаця менавіта ў ёй былі рэалізаваныя лепшыя праекты аўтарскага кіно, напрыклад, слаўтыя фільмы «Вожык у тумане» і «Казка казак» Ю. Нарштэйна.

Вобразны свет беларускай анімацыі багаты і шматпланавы. Дамінаваць пачалі такія жанры, як казка і прыпавесць. Фальклорная казка паўстае ў анімацыі ўсімі фарбамі і жанравымі постацямі. Наогул, беларуская фальклорная анімацыйная казка накіраваная на спасціжэнне не толькі духу, але і матэрыяльнага асяроддзя казкі, фактурных магчымасцей адлюстравання яе зместу. Адкрыццё паэзіі нацыянальнага фальклору ў розных формах — аўтэнтычных і аўтарскіх — адразу стала магістральнай лініяй развіцця маладога мастацтва. З жанрам народнай казкі актыўна працавалі рэжысёры Аляксандр Ленкін і Алена Турава.

### ПРА РЭАЛЬНАЕ

У стужцы «Чаго на свеце не бывае» (1996) А. Ленкін звярнуўся да жанраў небыліцы і чарадзейнай казкі пра маладога селяніна, які забаўляе мясцовую прыгажуню неверагоднымі гісторыямі. Гэты беларускі Мюнхгаўзен распавядае пра свой палёт на пячы, пра наведванне рая, пра здарэнне на рыбалцы, калі рыба цягае яго за сабой. Лялечная стужка «Церам-Церамок» (1998) створана па матывах вядомых у славянскім фальклоры казак пра жыхароў чароўнага церамка. Рэжысёр працягвае ўжываць прынцып антрапамарфізму, надзяляючы галоўных персанажаў амаль чалавечымі якасцямі і сацыяльнымі характарыстыкамі. Мышка паўстае сапраўднай гаспадыняй, жабяня — лянівым нахабнікам, ліса — прыгожай модніцай, заяц — мясцовым донжуанам, ваўчок — «новым рускім», мядзведзь — дужым дурнем.

«Зімоўка звяроў» (1999) — экранізацыя беларускай народнай казкі пра тое, як свойская жывёла і звяры рыхтуюцца да зімы. Прымітывісцкая стылістыка дазволіла стварыць абагульненыя, быццам намаляваныя дзіцячай рукой, фігуры быка, барана, кабана, пеўня і іх ворагаў — лісы, ваўка і мядзведзя. Маляваная карціна «Яма, танцы, чатыры струны» (2002) створана па матывах беларускіх народных казак на тэму чароўнай сілы мастацтва. Вясковаму музыку супрацьпастаўлены злы мядзведзь. У стужцы існуюць прыкметы духоўнай нацыянальнай культуры (музыка, адлюстраванне абраду вяселля) і рысы матэрыяльнага асяроддзя (касцюмы персанажаў з нацыянальнай арнаментыкай, стравы беларускай кухні: напрыклад, вясельны каравай). Агульная выяўленчая стылістыка нагадвае народны лубок з яго плоскасным наіўным малюнкам.

Па матывах беларускай народнай казкі зроблены фільм Алены Туравай «Казка пра Сінюю світку» (1997). Мастак-пастаноўшчык І. Лазерка стварыла прывабныя і адначасова ўмоўныя тыпажы беларускіх дзяўчыны і хлапца, а таксама чарадзея, які паўстае высакародным старцам ці драпежнай птушкай. Стужка «Музыка-чарадзей» (2001) распавядае пра скрыпача, які шукае папараць-кветку, каб надаць асаблівую сілу свайму мастацтву. У стылістыцы лубка аднаўляюцца тыповыя для беларускага фальклору казачна-міфалагічныя істоты — вадзянік з дачкой русалкай, азёрныя жыхары, ведзьмары і вядзьмаркі, а таксама сімвалічныя архітэктурныя вобразы Беларусі — Полацкая Сафія, Белая Вежа, гродзенскі Стары замак.

Класікай беларускай анімацыі сталі чарадзейныя аўтарскія казкі «Светлячок і Расінка» (1978, рэжысёр Юрый Бутырын) і «Пустэльнік і Ружа» (1980, рэжысёр Кузьма Крэсніцкі).

Працэс экранізацыі казак беларускіх пісьменнікаў заўсёды цікавіў аніматараў. Карціна «Каму чорт дзетак калыша» (1992, рэжысёр Аляксандр Ленкін) створана па матывах аднайменнай казкі класіка беларускай літаратуры У. Караткевіча. Анімацыйны мюзікл «Пра рыцара, які нічога не баяўся» (1991, рэжысёр А. Турава) адсылае да беларускіх народных казак, але ў жанры вясёлай пародыі на сучасны фільм жахаў. Турава звярнулася да жанру сучаснай казкі ў стужцы «Балада пра тры апельсіны» (1996). Вядомая казка знакамітага італьянскага драматурга Карла Гоцы была набліжана да сучаснасці і да тэатральнага дзеяння: падзеі адбываюцца на сцэне з заслонай і дэкарацыямі. Аўтарская казка дамінуе ў творчасці рэжысёра Таццяны Жыткоўскай. Атмасфера выдумкі пануе ў яе стужцы «Гора горкае» (1997), дзе хлопчык Паўлік ператвараецца ў персанажа камп'ютарнай гульні. Дзяўчынка Маша з фільма «Фантазёрка» (1999) стварае сваёй фантазіяй чароўны свет, у якім міфалагічныя лешыя, пачвары, дрэвы-веліканы існуюць поруч з сучаснымі верталётамі, хлапчукамі-ўфолагамі, а лепшая сяброўка Машы — жабяня Варвара. Прыём гіпербалы, візуальнай матэрыялізацыі вербальнай метафары існуе ў карціне «Пераацэнка каштоўнасцей» (2001): хлопчыку надакучыла рабіць школьныя ўрокі, і ён паступова ўцягвае ў слоўную гульню ўсю сям'ю. І вось ужо словы «катлета» і «гімназія» ператвараюцца ў «кошказіму» і «гімнафрыку». Наталля Хаткевіч зняла казку «Іван-ды-Мар'я пра каханне» (1997). Марына Карпава, схільная да гумару і парадаксальнасці, зрабіла фільм «Белы ікол» (1996).

Вялікі і цікавы пласт беларускай анімацыі складаюць сучасныя казкі, дзе аўтарская фантазія ў нейкай ступені абапіраецца на архетыпавыя ці фальклорныя вобразы, але набліжае апавяданне да сучаснага зместу.

**Антаніна КАРПІЛАВА**

# «Прафесія патрабуе педантызму»

## і іншыя ўрокі кампазітара Эдзі Тырманд

**Сёлета беларуская музычная супольнасць адзначае важную падзею — 100-годдзе з дня нараджэння першай беларускай жанчыны-кампазітара, піяніста, педагога Эдзі Майсееўны Тырманд.**

Па ўспамінах вучняў, Эдзі Майсееўна была чалавекам неардынарным, з моцнай воляй. Яна запомнілася вельмі незалежнай, хоць і жыла ў той час, калі незалежнасць было складана захоўваць. Тырманд вельмі ўплывала на тых, з кім даводзілася мець зносіны. Сама ж мела вельмі няпросты лёс. У 1939 годзе, у сувязі з пачаткам Другой сусветнай вайны, ёй давялося перапыніць навучанне ў Варшаўскай кансерваторыі і збегчы ў Беларусь. У Польшчы засталася вялікая сям'я — 65 чалавек, якія сталі ахвярамі канцлагераў. Гэтая рана не загойвалася ўсё жыццё.

У Мінску яна аднаўляе навучанне ў кансерваторыі. Скончыўшы клас фартэпіяна, паступае ў клас кампазіцыі Анатоля Васільевіча Багатырова. Успамінаючы Эдзі Майсееўну, многія адзначаюць яе незвычайную прагу да вучобы. Неяк Эдзі Майсееўна сказала: «Мне не ўсё роўна, што будуць казаць пра мяне пасля смерці». І ўсё, чым бы ёй ні даводзілася займацца, рабіла сумленна.

Паводле Эдзі Майсееўны, працаваць у кансерваторыі яна пачала выпадкова. Да таго моманту ўжо мела тры вышэйшыя адукацыі: вакальна-харавую, фартэпіянную і кампазітарскую. У кожнай з гэтых сфер яна выяўляла сябе як сапраўдны прафесіянал. Вось і пачаўшы выкладаць па класе канцэртмайстарскага майстэрства студэнтам-піяністам, не абмяжавалася фармальным падыходам да працы. Чалавек, які мысліць, тонкі музыкант, яна карэнным чынам змяніла падыход да акампанавання. Тырманд стала заснавальніцай канцэртмайстарскай школы, стварыўшы новы тып канцэртмайстра-артыста. Ад студэнтаў яна патрабавала дакладнага выканання нотнага тэксту. Асноўны прынцып — убачыць знутры, зразумець, чаму гэта напісана так, а не інакш. Будучы вельмі строгім педагогам, яна прытрымлівалася прынцыпу, што прафесія патрабуе педантызму. Надзвычай патрабавальная яна была і да сябе.



Эдзі Майсееўна не абмежавалася стандартным канцэртмайстарскім рэпертуарам. У падборы твораў яна выступіла як сапраўдны энтузіяст-прапагандыст. Кожны канцэрт студэнтаў яе класа быў значнай падзеяй у жыцці кансерваторыі. Яна ведала шмат заходнееўрапейскай музыкі, невядомай у той час у Савецкім Саюзе. У выкананні яе студэнтаў упершыню прагучалі «Песні вандроўнага чаляднікa» Г. Малера, Канцэрт для скрыпкі з аркестрам А. Берга, рамансы Г. Вольфа, П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, М. Мусаргскага, В. Гаўрыліна, якія рэдка выконваюцца. Яе любімым кампазітарам быў невядомы ў той час Караль Шыманоўскі (ды і цяпер яго творы на так часта выконваюцца). Вучні адзначаюць каласальную творчую інтуіцыю Эдзі Майсееўны, «нюх на сапраўднае».

Кампазітарскія пошукі Тырманд засяродзіла ў галіне камернай музыкі. Выдатна валодаючы кампазітарскай тэхнікай, яна магла працаваць абсалютна ў розных жанрах, здзіўляючы слухачоў незвычайнасцю творчых пошукаў. Вынік аднаго з такіх эксперыментаў — раманс «Колер маёй скуры», у якім кампазітар выкарыстоўвае джазавыя элементы, новыя і незвычайныя для беларускай музыкі таго перыяду. Ва ўсіх творах Тырманд перадае сваё бачанне свету, творчую індывідуальнасць. Галоўным для яе быў вобраз радзімы, Польшчы. Даніну памяці продкам яна аддала сваім апошнім творам — «Элегічнай імправізацыяй» для скрыпкі і фартэпіяна. Кампазітар Галіна Гарэлава распавядае: «Яна адчувала, што гэта яе апошні твор. І што трэба сплаціць даўгі. Бо ў кожнага чалавека назапашваюцца маральныя даўгі. Але кожны сам вызначае іх ступень. Эдзі Майсееўна лічыла, што ў даўгу перад усімі загінулымі сваякамі. Яна вельмі часта ўспамінала дзяцінства. Распавядала, як, вяртаючыся з музычнай школы, ішла праз парк Лазенкі і набівала кішэні каштанамі. І калі мы з Віктарам Войцікам паехалі на фэст "Варшаўская восень", вырашылі прайсціся па гэтым парку. Гэта быў апошні год яе жыцця (2001). Мы набралі поўныя кішэні каштанаў. Але перадаць не паспелі — яна памерла. І падчас паніхіды мы паклалі гэтыя каштаны ёй у труну».

У адным з апошніх інтэрв'ю на пытанне «Што чалавека трымае на зямлі?» Эдзі Майсееўна адказала: «Памяць». У памяць пра той унёсак, які Тырманд зрабіла ў беларускае мастацтва, у Акадэміі музыкі зладзілі фестываль. На працягу трох вечароў у выкананні студэнтаў — нашчадкаў школы Тырманд гучала камерная музыка. Гледачы мелі магчымасць пазнаёміцца з творамі Эдзі Майсееўны, а таксама з дэталямі яе біяграфіі. Ва ўсіх прысутных надоўга застанецца ў памяці вобраз гэтай дзіўнай жанчыны-музыканта, якая так аддана служыла сваёй справе.

**Любоў СЫЦЬКО.**

# Дакладнасць вымярэнняў

## Ад фізічнай прасторы да гукавога фону красавіка

**Ужо ў 33 раз у сталіцу завітвае «Мінская вясна». Сёлета фестываль будзе асаблівым: чакаецца 16 канцэртаў, якія пройдуць у залах Беларускай дзяржаўнай філармоніі на працягу красавіка, з'яднаюцца музыканты з 6 краін свету, і будзе прадстаўленая камерная, сімфанічная, вакальная, харавая і джазавая музыка. «Мінская вясна» сёлета прысвечаная хуткаму 80-годдзю філармоніі і 100-годдзю з дня нараджэння піяністкі Ірыны Аляксандраўны Цвятаевай.**



*Дзяржаўны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь падчас мінулагодняй «Мінскай вясны».*

Мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юрый Гільдзюк адзначыў, што канцэрты будуць розныя па жанрах, але іх аб'ядnae тое, што разам з вядомымі прозвішчамі, пра якія нагадаюць слухачам падчас «Мінскай вясны», прагучаць і новыя імёны маладых музыкантаў. Дарэчы, і 3 канцэрты, прысвечаныя 100-годдзю выдатнага выкладчыка і піяністкі І. А. Цвятаевай, таксама пройдуць пад знакам маладых. Прафесар доўгі час працавала ў кансерваторыі, выгадавала каля 25 лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, калі такой колькасці конкурсаў нават не было. Сярод яе вучняў — І. Алоўнікаў, С. Мікулік, І. Семяняка, словам, выдатныя майстры. Юрый Гільдзюк таксама вучыўся ў Цвятаевай: «На працягу 9 гадоў яна была і маёй "музычнай мамай" — менавіта так мы яе называлі. Таму такое імя немагчыма абмінуць, мы вырашылі, што гэта будзе незвычайная праграма: іграць будзем не мы, вучні Цвятаевай, а ўжо нашыя вучні, яе так званыя ўнукі, выхаваныя на адзіных ідэях: павага да кампазітарскага тэксту, вялізная любоў да рускай школы і рускай музыкі і беражлівае стаўленне да гуку. Перадаём гэтыя традыцыі з пакалення ў пакаленне».

У межах праграмы «Мінскай вясны» таксама запланаваны канцэрт да 70-годдзя з дня народзінаў Т. Сергіенка, якая шмат зрабіла для развіцця беларускай цымбальнай школы. З неверагоднай музыкай мандаліны пазнаёмяць маладыя беларускія музыканты: падчас фестывалю адбудуцца міжнародныя дні мандалінна-гітарнай музыкі, а сёлета мандалінная музыка будзе гучаць з французскім акцэнтам, падкрэсліў музыкант Мікалай Марэцкі: «Да якога музычнага жанру адносіцца мандалінная музыка? Я думаю, правільны адказ такі: якую музыку іграе мандаліна, да таго жанру яна і будзе адносіцца. Гэта вельмі разнастайны інструмент: на ім пісалі і Вівальдзі, і Моцарт. Гэты інструмент дапамагае асобе раскрыцца. Наш канцэрт будзе шматгранны: на адной сцэне збяруцца віртуозы з Беларусі і Францыі, мы будзем іграць канцэрт, прысвечаны Тулузе, маладога марсэльскага мандаліністa В. Бір-Дэмандэра».

У філармоніі адзначаюць, што многія музыкі едуць на «Мінскую вясну» не для таго, каб зарабіць, а сапраўды праз любоў да мастацтва. Упершыню на беларускай сцэне выступіць Джэ Юэн з Кітая. Музыкант скончыў вядомую школу Джуліярд і Даласкі ўніверсітэт. Ён выканае творы Шапэна, Шумана і Лігеці — сапраўднае «Рамантычнае вандраванне». Яшчэ адзін замежны госць, якога доўга чакала беларуская публіка, — віяланчэліст з Вялікабрытаніі Нікалас Джонс, які будзе выступаць разам з самай маладой беларускай артысткай. Аматараў джаза чакае сустрэча з расійскім квартэтам саксафаністаў — рэдкая з'ява для музіцыравання на такім інструменце.

Але вельмі важным складнікам «Мінскай вясны» будуць выступленні айчынных музыкантаў, заўважае Юрый Гільдзюк: «Мы звяртаем увагу на маладых беларускіх артыстаў, якія хоць і жывуць у іншых краінах, але прадстаўляюць сваёй музыкай Беларусь і вяртаюцца дадому, каб даваць канцэрты». Напрыклад, прыедзе піяніст Віталь Стахіевіч, які зараз жыве і працуе ў Нідэрландах. Ён выканае творы Шапэна, Ліста, Скарлаці, Пракоф'ева і Вайніцкага ў апошні вечар «Мінскай вясны». Але самым прыемным падарункам стане выступленне маладых віртуозаў Беларусі — піяністкі Кацярыны Давыдавай і віяланчэлісткі Мікаэла Самсонава. Самсонаў — вучань У. Перліна, у 1997 годзе атрымаў музычную прэмію ў Вашынгтоне. Ён адзін з тых музыкантаў, творчасцю якіх захапляюцца не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Але ён з радасцю і неверагодным хваляваннем выступіць на роднай сцэне.

Самы незвычайны канцэрт у праграме — «Тэрменвокс?.. Тэрменвокс!». Убачыць фізічна гэты інструмент немагчыма, бо гэта толькі радыёхвалі, якія і складаюць неверагодны гук, гэтым інструментам карысталіся вядомыя музыканты. У 1920 годзе тэрменвокс вынайшаў Леў Пярмён для вымярэння фізічных велічыняў, але са свету фізікі інструмент перайшоў у свет музычны. Тэрменвокс прагучыць падчас аднаго з вечароў з камерным аркестрам Рэспублікі Беларусь.

Для дырыжора Аляксандра Анісімава «Мінская вясна» — наогул свята: «Наш аркестр заўсёды з радасцю і адказнасцю бярэ ўдзел у беларускіх музычных фестывалях, таму што мы патрыёты, таму што музыка ў Беларусі не павінна замыкацца толькі ў фестывалях Башмета і Співакова».

Гэтым разам Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр падрыхтаваў дзве арыгінальныя кантрасныя праграмы. Адна з іх працягвае тэму Вялікага посту: прагучаць вядомы «Рэквіем» Моцарта і менш папулярная, але неверагодна прыгожая, па словах Анісімава, «Смерць і прасвятленне» Штрауса. Другі канцэрт прысвечаны маладым і таленавітым беларускім музыкантам: прагучыць «Рапсодыя ў стылі блюз» Гершвіна і канцэрт для віяланчэлі Сен-Санса.

Не так даўно сімфанічны аркестр вярнуўся з падобнага фестывалю з Малдовы. Аляксандр Анісімаў кажа, што там у адзін дзень ладзілася па некалькі канцэртаў, і кожны з аншлагам. Дырыжор спадзяецца, што не будзе перашкод сустрэцца з прыгожым таксама і для публікі «Мінскай вясны».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ПОГЛЯД ЗБОКУ

*Асоба Валянціна Елізар'ева праз фотаздымкі*

**Дзякуючы харэографу Валянціну Елізар'еву пра айчынны балет загаварылі як пра сапраўдную культурную з'яву. Увосень майстру споўніцца 70 год. Менавіта гэтая дата стала падставай для арганізацыі фотапраекта «Рэпартаж з цяперашняга часу», які дэманструецца ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры».**

Валянцін Елізар'еў упершыню стаў галоўным героем падобнага праекта, аўтарства якога належыць маладому фатографу, студэнту Акадэміі мастацтваў Мікіту Фядосіку. Балетмайстра зацікавіла ідэя, у выніку яна вылілася ў маштабную і знакавую для Валянціна Елізар'ева выстаўку:



— Калі ўпершыню сустрэўся з Мікітам, падкупіла яго шчырасць, існая зацікаўленасць балетам, жаданне ўбачыць і разабрацца ў тым, чым ніколі не займаўся, — прызнаецца Валянцін Елізар'еў. — Мне пашчасціла адкрыць сваю душу менавіта гэтаму маладому творцу, і ён зразумеў яе, адчуў. Гэта галоўная ўзнагарода. Мы доўгі час былі побач, таму сцерлася мяжа ўзросту, мы сталі блізкімі, навучыліся разумець адзін аднаго з паўслова. Ведаеце, я не прымушаю вучняў ставіць фрагменты са сваіх балетаў, мне хочацца, каб яны прыдумлялі ўласныя. Яны не павінны капіраваць мяне, трапляючы пад мой харэаграфічны ўплыў. Няхай лепш вучацца слухаць сваё цела. Гэтак жа атрымалася з Мікітам, я не прасіў яго зрабіць так, як хацелася мне, наадварот: даў поўную творчую свабоду. І не памыліўся.

Выстаўку балетмайстар лічыць сваім вялікім падарункам, а Мікіту — сябрам. Валянцін Мікалаевіч настолькі прывык да прысутнасці побач з сабой фатографа, што зараз падчас працы яму не хапае маладога аўтара.

— Першы балет, які я ўбачыў, — «Спартак», яго паставіў менавіта Валянцін Елізар'еў. Праз некалькі гадоў прыйшла ідэя паспрабаваць паздымаць балет на камеру, — расказвае аўтар выстаўкі Мікіта Фядосік. — Выдалася магчымасць папрысутнічаць на занятках Валянціна Мікалаевіча. Першыя ўрокі я проста назіраў, спрабаваў зразумець сістэму, вызначыцца з героямі фотаработ. У выніку вырашыў здымаць Валянціна Мікалаевіча, мне вельмі хацелася расказаць аднагодкам пра маэстра, каб яны захацелі ўбачыць яго спектаклі, што ідуць у Вялікім тэатры оперы і балета. Фатаграфаваць было нескладана: Валянцін Мікалаевіч даволі хутка прывык, што ў рэпетыцыйнай зале шчоўкае затвор фотаапарата. Таму ў мяне не было скаванасці, я з задавальненнем лавіў момант, каб зрабіць новы кадр. У Валянціна Мікалаевіча не было строгіх крытэрыяў у адборы фатаграфій для экспазіцыі. Усё выйшла дэмакратычна. Мае фатаграфіі — аповед пра чалавека, які закаханы ў сваю справу. У цэлым, калі я толькі пачынаў здымаць заняткі, ідэі арганізоўваць выстаўку не было, але вынік нельга было хаваць на паліцы. Фотаздымкаў атрымалася шмат, я праглядаў іх неаднойчы, намагаўся скласці ў адну агульную гісторыю. І зразумеў, што назапашаны матэрыял — падстава для выстаўкі.

З тысяч фотаздымкаў, зробленых за некалькі месяцаў, у экспазіцыю ўвайшло толькі пяцьдзясят. Справа, дарэчы, не ў якасці кадраў, а ў іх прызначэнні: кожны здымак — частка асобнай гісторыі. За некалькі месяцаў сумеснай работы фатограф не зрабіў ніводнага пастановачнага кадра, лавіў жывыя эмоцыі. Пасля Валянцін Мікалаевіч здзівіўся, што раней не заўважаў за сабой пэўных паводзінаў.



Канцэпцыю выстаўкі можна ахарактарызаваць словам «люстэрка», праз якое галоўны герой бачыць, як развіваюцца яго вучні, як развіваецца ён сам, як развіваецца балет. Гэтае мастацтва і падказала ідэю: у харэаграфічнай рэпетыцыйнай зале ёсць люстэрка, якое хавае вобразы, што афармляюцца ў творы, і дзе адлюстроўваецца гісторыя жыцця асобных людзей, звязаных балетам.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



**Помнікі бываюць розныя: велічныя і сціплыя, матэрыяльныя і духоўныя. Галоўная іх задача — захоўваць памяць пра значныя падзеі і герояў гэтых падзей, карацей кажучы, пра мінулае. Музеі, нават школьныя, з'яўляюцца такімі помнікамі. Адзін з іх — у аграгарадку Насовічы Добрушскага раёна — мне пашчасціла наведаць.**

Па колькасці экспанатаў гэтаму школьнаму этнаграфічнаму музею можна толькі пазайздросціць. Залы прысвечаныя жыццю і побыту нашых продкаў са старажытных часоў да сённяшніх дзён, шмат інфармацыі пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны... Нельга прайсці міма стэнда «Жалобны звон Чарнобыля». Але асабліва ўразіла «Сялянская хата», агульны выгляд якой узноўлены ў невялікай зале. Стол з лаўкамі, пралка, ступа, калыска, іншыя прадметы вясковага побыту — усе гэтыя аўтэнтычныя рэчы сабралі для музея настаўнікі і вучні школы. Экспанаты ў добрым стане, і імі, калі ўмець, можна яшчэ карыстацца. Іконы ў «чырвоным» куце, вокны, стол, калыска ўпрыгожаныя дамаканымі ручнікамі — проста і гарманічна.

Дырэктар этнаграфічнага музея, створанага ў 1991 годзе, — яго ж заснавальнік, заслужаны настаўнік Беларусі Віктар Серпікаў. Нягледзячы на пенсійны ўзрост, ён ладзіць са школьнікамі заняткі, прысвечаныя краязнаўству. Разам працуюць над летапісам школы. Дарэчы, раней Віктар Пятровіч стварыў летапіс вёскі Насовічы.

Музей наведваюць не толькі мясцовыя жыхары. Завітваюць турысты з іншых гарадоў і вёсак, нават з-за мяжы. А Гомельскі абласны цэнтр турызму і краязнаўства дзяцей і моладзі прапануе аматарам цікавых падарожжаў выправіцца ў Насовічы за новымі ўражаннямі.

**Яўген ШАСТАКОЎ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
6.04.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1561.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1415

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686